ВАЖНАЯ ТЭМА

# Навошта смяротнае пакаранне, калі ёсць пажыццёвае зняволенне?

*Крымінальны кодэкс Беларусі, які дзейнічае ў нашай краіне з 1999 года, прадугледжвае такую меру пакарання, як пажыццёвае зняволенне. Тым не менш і пасля ўвядзення ў дзеянне новага КК беларускія суды выкарыстоўваюць у якасці найвышэйшай меры пакарання смяротную кару. Хоць трэба прызнаць, што смяротныя прысуды апошнім часам выносяцца не так часта, як гэта было да 1999 года. І тым не менш стрэлы ў сутарэннях Пішчалаўскага замка ўсё яшчэ гучаць.*

*У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь (артыкул 24), "смяротная кара да яе адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прыгаворам суда".*



## За што могуць расстраляць

Увогуле гэтая мера пакарання можа прызначацца за 12 катэгорый злачынстваў у мірны час і за дзве — у час ваенны. Напрыклад, у спісе катэгорый злачынстваў — "развязванне альбо вядзенне агрэсіўнай вайны" (частка 2 артыкула 122 КК РБ), "забойства прадстаўніка замежнай дзяржавы, міжнароднай арганізацыі з мэтай правакацыі міжнародных ускладненняў альбо вайны" (частка 2 артыкула 124), "міжнародны тэрарызм" (артыкул 126), "генацыд" (артыкул 127), "злачынствы супраць бяспекі чалавецтва" (артыкул 128).

Смяротнае пакаранне можа быць таксама прызначана за "наўмыснае пазбаўленне жыцця пры абцяжарваючых абставінах" (частка 2 артыкула 139), "тэрарызм" (частка 3 артыкула 289), "тэрарыстычная акты" (артыкул 359), "здрада, спалучаная з забойствам" (частка 2 артыкула 356), "змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады" (частка 3 артыкула 357), "дыверсія" (частка 2 артыкула 360).

Да таго ж расстраляць могуць за "забойства супрацоўніка міліцыі" (артыкул 362), "прымяненне зброі масавага паражэння" (артыкул 134), "забойства асобы падчас парушэння законаў і звычаяў войнаў" (частка 3 артыкула 135).

Выкананне смяротнага пакарання ў выглядзе расстрэлу адбываецца ў СІЗА № 1 МУС РБ у Мінску на вуліцы Валадарскага (Пішчалаўскі замак).

## Каго нельга расстраляць

У адпаведнасці з Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, смяротнае пакаранне не можа быць прысуджана асобам, якія здзейснілі злачынства ва ўзросце да 18 гадоў, жанчынам, а таксама мужчынам, якім на момант вынясення прысуду споўнілася 65 гадоў.

## Магчымая альтэрнатыва расстрэлу

Трэба звярнуць увагу і на тое, што ні ў адной з санкцый згаданых вышэй артыкулаў Крымінальнага кодэкса смяротная кара не прадугледжана як адзіна магчымае пакаранне.

Альтэрнатыва смяротнаму пакаранню ўпершыню была ўведзена Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1997 года "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Папраўча-працоўны кодэксы Рэспублікі Беларусь". У адпаведнасці з гэтым актам у Крымінальны кодэкс упершыню была ўведзена норма, якая прадугледжвала новы від крымінальнага пакарання ў выглядзе пажыццёвага зняволення.

Цяперашнім часам у Беларусі дзейнічае Крымінальны кодэкс, прыняты 9 ліпеня 1999 года (набыў сілу 1 студзеня 2001 года), якім смяротнае пакаранне прадугледжана ў якасці выключнай меры пакарання (артыкул 59) за некаторыя асабліва цяжкія злачынствы, спалучаныя з наўмысным пазбаўленнем жыцця чалавека пры абцяжарваючых абставінах. У адпаведнасці з тым жа артыкулам 59 КК РБ, смяротнае пакаранне ў парадку памілавання можа быць заменена пажыццёвым зняволеннем.

Тым не менш, нягледзячы на ўзаконеную альтэрнатыву, паводле даных Міністэрства юстыцыі Беларусі, з 1994-га па 2011 год да смяротнага пакарання быў прыгавораны 241 чалавек. Прычым "расстрэльныя" прысуды выносіліся і пасля пачатку дзеяння новага КК. Праўда, той жа Мінюст паведамляе, што ў 2012 годзе ніводзін чалавек у Беларусі не быў прыгавораны да смерці.

Пры гэтым улады чамусьці адмаўляюцца паведамляць, колькі чалавек за гэты час было памілавана. Самы свежы прыклад — зварот па гэтую інфармацыю ў Адміністрацыю прэзідэнта праваабаронцы з Брэста **Рамана Кісляка**. Ён паведаміў агенцтву БелаПАН, што ў АП у прадастаўленні інфармацыі аб колькасці памілаваных сярод асуджаных на смяротнае пакаранне, пачынаючы з 1994 года, яму было адмоўлена. Сам Кісляк кажа, што, паводле ягоных (неафіцыйных) даных, у Беларусі за апошнія 19 гадоў быў памілаваны як мінімум адзін чалавек.

Паводле меркавання незалежных экспертаў, высветліць дакладную колькасць прыгавораных да смерці, расстраляных і памілаваных практычна немагчыма.

## Пажыццёвае зняволенне

Яно прадугледжана ў Крымінальным кодэксе як альтэрнатыва смяротнаму пакаранню. Яно можа быць прызначана асобам, якія здзейснілі злачынства ва ўзросце да 18 гадоў, жанчынам, а таксама мужчынам, якім на момант вынясення прысуду споўнілася 65 гадоў.

Асуджаныя да пажыццёвага зняволення адбываюць пакаранне ў папраўчай калоніі асобага рэжыму альбо ў турме. Па адбыцці 20 гадоў асобе, асуджанай да пажыццёвага зняволення, альбо асобе, якой смяротнае пакаранне ў парадку памілавання заменена пажыццёвым зняволеннем, суд, улічваючы стан яе здароўя ці ўзрост, а таксама паводзіны асуджанага, можа замяніць далейшае адбыванне пажыццёвага зняволення пазбаўленнем волі на пэўны тэрмін, але не звыш пяці гадоў.

## Страляюць, не чакаючы выканання ўсіх працэдур

Як адзначаюць праваабаронцы, смяротныя прысуды часам прыводзяцца ў выкананне яшчэ да заканчэння ўсіх прадугледжаных заканадаўствам і міжнароднымі нормамі працэдур.

Так, у 2009 годзе да смяротнага пакарання былі прыгавораны **Андрэй Жук** (за ўзброены напад і забойства мужчыны і жанчыны) і **Васіль Юзэпчук** (за забойства шасці жанчын сталага веку). У кастрычніку 2009 года асуджаныя на смерць падалі скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека. Гэты Камітэт заклікаў беларускі ўрад не выконваць смяротныя прысуды да разгляду скаргаў. Тым не менш абодвух мужчын расстралялі яшчэ ў 2010 годзе — да разгляду іх скаргаў.

Вялікі розгалас як у Беларусі, так і па-за яе межамі мела справа аб выбуху ў Мінскім метрапалітэне, які адбыўся 11 красавіка 2011 года. Вінаватымі ў здзяйсненні злачынства былі прызнаны жыхары Віцебшчыны дваццаціпяцігадовыя **Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў**, якіх Вышэйшы суд Беларусі таксама прыгаварыў да смяротнага пакарання. У вялікай колькасці назіральнікаў як следства, так і суд выклікалі шэраг пытанняў. Тым больш што Уладзіслаў Кавалёў не прызнаў сваёй віны і падчас суда заявіў пра аказанне на яго ціску цягам папярэдняга следства.

Кавалёў і ягоны абаронца таксама накіравалі скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека. Як і ў выпадку з Жуком і Юзэпчуком, Камітэт ААН заклікаў кіраўніцтва Беларусі не прыводзіць прысуд у выкананне да разгляду скаргі. Тым не менш усяго праз некалькі месяцаў пасля вынясення смяротнага прысуду (30 лістапада 2011 года) Канавалаў і Кавалёў былі расстраляны (сярэдзіна сакавіка 2012 года). Пазней Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў недахопы падчас следства і суда і прыйшоў да высновы, што беларуская дзяржава парушыла галоўнае права Уладзіслава Кавалёва (Канавалаў, які падчас суда не сказаў амаль ніводнага слова, у Камітэт ААН не звяртаўся) — права на жыццё.

Трэба адзначыць, што сваякам расстраляных не паведамляюць ні дакладны час прывядзення прысуду ў выкананне, ні месца пахавання, не кажучы ўжо пра выдачу цела расстралянага. Маці Уладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва пачала шырокую кампанію не толькі ў абарону добрага імя свайго сына, але і за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі ўвогуле. Жанчына таксама патрабуе выдаць ёй цела сына і ягоныя дзённікі, якія Уладзіслаў вёў, знаходзячыся за кратамі.

## Расстрэлы можна адмяняць

11 сакавіка 2004 года Канстытуцыйны суд (КС) Рэспублікі Беларусь вынес заключэнне № 3-171/2004 па справе "Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным дамовам Рэспублікі Беларусь палажэнняў Крымінальнага кодэкса РБ, якія прадугледжваюць прымяненне ў якасці пакарання смяротнай кары". У сваім рашэнні КС звярнуў увагу, што норма часткі 3 артыкула 24 Канстытуцыі, якая дапускае пакаранне ў выглядзе смяротнай кары, адначасова ўтрымлівае і ўказанне на яе выключны і ЧАСОВЫ характар.

У заключэнні КС адзначана, што непрымяненне смяротнага пакарання на еўрапейскім кантыненце стала агульным правілам. Дзяржавы — члены Савета Еўропы, якія падпісалі і ратыфікавалі Еўрапейскую канвенцыю аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод 1950 года і пратаколы да яе № 6 ад 28 красавіка 1983 года і № 13 ад 3 мая 2002 года, абавязаны выключыць прымяненне смяротнага пакарання.

У той жа час Канстытуцыйны суд адзначае, што Рэспубліка Беларусь не з'яўляецца членам Савета Еўропы і ў звязку з гэтым для яе выкананне згаданых дакументаў не з'яўляецца абавязковым. Не ратыфікаваны і Другі факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які таксама абавязвае кожную дзяржаву — удзельніцу гэтага Пратакола, зрабіць усе неабходныя захады для адмены смяротнага пакарання ў рамках сваёй юрысдыкцыі. Паколькі згаданыя вышэй міжнародныя дамовы не ратыфікаваны, што абумовіла б паводле артыкулаў 8 і 116 Канстытуцыі Беларусі вяршэнства міжнародных актаў у сістэме нацыянальнага права, КС прыйшоў да высновы, што ў сучасных умовах пытанне аб адмене гэтага віда пакарання альбо аб увядзенні мараторыя на яго прымяненне можа быць вырашана прэзідэнтам РБ і парламентам.

Такім чынам, з дакумента КС вынікае, што ніякага рэферэндуму аб адмене смяротнага пакарання, пра што шматкроць казаў дзеючы кіраўнік дзяржавы, спасылаючыся на вынікі плебісцыту 1996 года, не патрабуецца. Бо, яшчэ раз падкрэслім, смяротнае пакаранне ў Асноўным законе Беларусі прапісана як ЧАСОВАЯ мера.

## Чаму нельга прымяняць смяротнае пакаранне

Як лічыць кіраўнік юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта **Гары Паганяйла**, выкарыстоўваць расстрэл нельга не толькі таму, што ёсць стандарты, што ёсць грамадская мараль. *"Справа ў тым, што сёння суды ўсё ж недасканалыя, ёсць верагоднасць судовай памылкі, асабліва па крымінальных справах. У крымінальным працэсе высвятліць "ісціну ў апошняй інстанцыі" практычна немагчыма. Можна наблізіцца да яе, але не ўстанавіць. У звязку з гэтым лічыцца немагчымым прымяненне смяротнага пакарання, таму што такая мера незваротная. Ёсць дзясяткі прыкладаў, калі праз некалькі гадоў высвятляюць, што людзі, прыгавораныя да смяротнага пакарання, не здзяйснялі злачынства. Падобныя гісторыі меліся і ў сучаснай Беларусі",* — адзначыў юрыст.

Дастаткова прыгадаць толькі сумнавядомую "Віцебскую справу", калі яшчэ да таго, як злавілі сапраўднага маньяка — забойцу жанчын **Генадзя Міхасевіча,** аднаго чалавека расстралялі, трох асудзілі на 15 гадоў зняволення і яшчэ некалькіх — да меншых тэрмінаў пазбаўлення волі.

А тым часам Беларусь застаецца адзінай краінай не толькі ў Еўропе, але нават і на тэрыторыі ўсяго былога СССР, у якой дагэтуль выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. І адзінай дзяржавай на кантыненце, якая не з'яўляецца членам Савета Еўропы. Бо адмена смяротнага пакарання ці хаця б увядзенне мараторыя на расстрэлы ёсць адной з галоўных умоў сяброўства ў Савеце Еўропы.

**Генадзь КЕСНЕР.**

ПОДСЧИТАЛИ...

## *За два месяца рост цен превысил плановую четырехмесячную инфляцию*

Индекс потребительских цен на товары и услуги в феврале 2013 года по сравнению с январем 2013 года составил 101,2%, с декабрем 2012-го — 104,3%.

Об этом сообщает Белстат в официальном пресс-релизе.

Таким образом, всего за два месяца 2013 года рост цен "съел" более трети прогнозного годового значения по инфляции, которое определено в 12%.

В феврале быстрее всего росли цены на следующие продовольственные товары:

— яйца — 14,4%,
— картофель — 5,6%,
— алкоголь — 4,7%
— макаронные изделия — 2,5%,
— табак — 2,2%
— пшеничная мука — 1,7%.

НУ И НУ!

## *Обнаглели*

Прокуратура Минской области выявила факты нерационального расходования средств госпредприятий на приобретение регистрационных номеров для служебных автомобилей с желаемой комбинацией цифр.

На покупке "крутых" номеров попались несколько строительных ОАО, Борисовский мясокомбинат, Минский агросервис и другие.

Как известно, за "блатные" номера надо платить. Когда какой-нибудь чудак с деньгами не жалеет на красивую комбинацию цифр собственных средств, это может вызвать удивление, но не более того. Однако когда подобным образом щедро разбрасываются казенными деньгами разного рода начальнички — это уже вызывает интерес прокуратуры.

Сообщается, что по всем выявленным фактам приняты меры прокурорского реагирования, направленные на возмещение должностными лицами материального ущерба, причиненного предприятиям.

АКТУАЛЬНА

## Як у Расіі і Узбекістане

*У свеце сёння засталіся толькі тры краіны, дзе на пенсію мужчыны выходзяць у 60 гадоў, а жанчыны — у 55.*

Дадзены парог пенсійнага ўзросту захаваны ў Расіі, Беларусі і Узбекістане, заявіў на online-канферэнцыі БЕЛТА намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Валерый Кавалькоў**.

Варта адзначыць, што яшчэ нядаўна ў спісе гэтых краін была і Украіна. Але два гады таму ў нашых суседзяў пачалася пенсійная рэформа, і было прынята рашэнне зрабіць аднолькавым пенсійны ўзрост для мужчын і жанчын. Цяпер Украіна паэтапна павялічвае ўзрост выхаду на пенсію для жанчын з 55 да 60 гадоў.

Дарэчы, сярэдні ўзрост выхаду на пенсію жанчын у 60 гадоў вызначаны ў многіх еўрапейскіх краінах. У прамыслова развітых краінах ЕС ён некалькі вышэйшы, там мужчыны сыходзяць на заслужаны адпачынак прыкладна ва ўзросце 63,5 года, а жанчыны — у 62,3 года.

Некалькі гадоў таму ў Беларусі таксама вялося абмеркаванне, што наспеў час павышаць пенсійны ўзрост для жанчын. Усім вядома, што жанчыны, хоць і лічацца слабым полам, у сярэднім жывуць даўжэй за мужчын. У Беларусі гэтая розніца складае 12 гадоў: сярэдняя працягласць жыцця беларускіх мужчын на дадзены мамонт склала 64,7 года, жанчын — 76,7 года. Акрамя таго, сярод працуючых пенсіянераў жанчын амаль удвая больш, чым мужчын. Згодна з апошнімі статыстычнымі данымі, гэтыя суадносіны такія: на пенсіі працягваюць працаваць 384,6 тысячы беларусак і каля 202 тысяч беларусаў.

Аднак далей грамадскіх абмеркаванняў справа не пайшла. Магчыма таму, што ў Беларусі галоўны працаўнік павышэння пенсійнага ўзросту — дзеючая ўлада.

ДАРЭЧЫ

## Калі павысіцца пенсія?

Падчас online-канферэнцыі ў намесніка міністра пацікавіліся, калі чакаць павышэння працоўных пенсій.

— *Памеры мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій, а таксама павышэнняў, надбавак і даплат да пенсій будуць перагледжаны ў маі, зыходзячы з велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва за першы квартал бягучага года,* — заявіў Кавалькоў. — *Што тычыцца працоўных пенсій, то іх пераразлік заканадаўства ўвязвае з умовай 15-працэнтнага росту сярэдняй заработнай платы работнікаў у краіне. Пры гэтым улічваюцца фінансавыя магчымасці Фонду сацыяльнай абароны.*

Апошнім разам працоўныя пенсіі ў Беларусі былі павялічаны ў лістападзе мінулага года. Рост склаў 14,7% — менавіта настолькі зарплата ў 3-м квартале 2012 года перавысіла зарплату ў 2-м квартале. Зараз сярэдні памер працоўнай пенсіі па ўзросце складае 1 мільён 966 тысяч рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Космонавт Олег Новицкий соскучился по картофельным пирогам и жареным ребрышкам

*Жена космонавта Олега Новицкого готовится к встрече с супругом: 15 марта он должен вернуться из космоса.*



Об этом журналистка Юлия Новицкая написала в своем "Дневнике жены космонавта", который ведет в интернете с октября минувшего года.

Напомним, что полковник ВВС России Олег Новицкий — родом из Беларуси, он родился в 1971 году в Червене. На Международной космической станции Новицкий находится с октября 2012 года в качестве бортинженера. В Беларуси живут его мать, сестра и другие родственники.

Кстати, в феврале, во время очередного сеанса связи, Олег Новицкий устроил самую настоящую экскурсию для близких по международной космической станции.

"*Связь длилась сорок минут*, — рассказывает Юлия Новицкая. — *Не могу сказать, что мало, хотя бывало, что мы общались и больше часа. Но нам показалось, что время пролетело незаметно: только пришли — и уже прощаемся... А 15 марта мой любимый муж должен вернуться! Я очень жду этого дня! От многих жен, у кого есть опыт ожидания мужей из космических полетов, слышала, что крайний месяц самый трудный. Сейчас я убеждаюсь в этом сама...*".

Судя по всему, в космосе Олег Новицкий истосковался по домашней еде. Во всяком случае он уже попросил Юлию подготовить ему определенное меню.

*"Муж сделал кулинарный заказ на посадку, сказал, что ему очень хочется жареных свиных ребрышек (это плюс к картофельному пирогу, который он называет белорусским, и запеченной рыбе),* — делится с читателями своего дневника супруга космонавта. — *Я "приказ из космоса" сразу же выполнила, ребрышки купила..."*

Но и космическую еду Новицкий хвалит. Об этом он не раз говорил супруге.

*"Олег сказал, что больше всего ему нравится творог с различными добавками: с черносливом, облепихой, орехами,* — говорит Юлия. — *А еще, по его словам, у них там очень вкусные супы. Есть и рассольник, и борщ, и вермишелевый, и гороховый, и харчо...".*

Космонавты вовсю готовятся к возвращению на Землю.

*"У ребят уже идут тренировки в "Чибисе",* — рассказывает Юлия Новицкая. — *Это специальный нагрузочный костюм, этакая герметичная одежда, управляемая компьютером. На нижнюю часть тела создается отрицательное давление, тем самым имитируется земная гравитация. Олег говорит, что процесс тренировки занимает примерно час или чуть больше - это вместе с подготовительной работой и снятием костюма. Он даже сделал коротенькое видео на эту тему и прислал нам.*

*Кстати, о том, насколько тяжело сказывается на человеческом организме отсутствие земной гравитации, впервые узнали в 1970 году, когда после 18-суточного полета на Землю вернулись космонавты Николаев и Севастьянов. Они несколько дней не могли не только ходить, но даже стоять! Вот тогда-то ученые и озадачились необходимостью создания средств профилактики. И вскоре на свет появился вакуумный комплект "Чибис".*

*Я недавно прочитала, что проводимые медицинские исследования показали, что изменения, происходящие в мышечной ткани и структуре кровеносных сосудов во время космического полета, очень похожи на клинические проявления, возникающие при инсультах. Приятного мало...*

*Когда-то я брала интервью у начальника медицинского управления Центра подготовки космонавтов В.И.Почуева. Он вспомнил, как впервые принимал участие в послеполетной реабилитации космонавтов: "Я пришел на работу в ЦПК, имея за плечами большой опыт работы в клиниках. Когда участвовал в первой реабилитации и впервые столкнулся с оценкой состояния здоровья человека после космоса, посмотрел его результаты анализов, моя реакция была: "Это же больной человек! Его нужно срочно госпитализировать!" Но мне подсказали опытные коллеги, что это специфические изменения, характерные для космонавта после полета - изменения кровеносной системы, системы белкового обмена и т.д. Сегодня мы уже знаем, к какому сроку те или иные изменения должны прийти в норму. По нашему опыту, через три недели можно отменять медицинское наблюдение и направлять космонавта на санаторный этап реабилитации..."*

**Марина КОКТЫШ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## *Одни вопросы*

Экспертам пока не удалось установить точную причину смерти обнаруженного мертвым в Вильнюсе, в подвале многоквартирного дома в микрорайоне "Науянинкай", главы объединения белорусов "Сябрына" **Романа Войницкого**.

Об этом в понедельник сообщил начальник Главного комиссариата полиции Вильнюсского округа Кястутис Ланчинскас. Он также сказал, что на теле "нет очень очевидных признаков насилия". Хотя первоначально, после известия о гибели Романа Войницкого, новости выходили с заголовками о том, что лидера одной из белорусских организаций Литвы перед смертью жестоко пытали.

Однако Кястутис Ланчинскас заявил следующее: *"Имеется много информации, она анализируется, очень много интересной информации есть, но пока об этом говорить рано. Она противоречивая. Ни одна версия не опровергнута, но мы не находим мотива",* — сказал Ланчинскас.

КРИМИНАЛ

## *В Москве вынесли приговор белорусскому киллеру*

*Московский городской суд признал гражданина Беларуси **Андрея Ярцева** виновным в заказном убийстве бывшего заместителя директора ярославского футбольного клуба "Шинник" Юрия Шишлова. По решению суда первой инстанции белорус должен провести 10 лет в колонии строгого режима.*

По сообщению пресс-службы Мосгорсуда, Ярцев обвинялся в убийстве по найму и незаконном ношении оружия. Ему грозило наказание до 20 лет лишения свободы либо пожизненное заключение. Однако еще в ходе следствия он заключил сделку — полностью признал свою вину, раскаялся, выдал заказчицу преступления и своего пособника. В результате дело слушалось в суде в особом порядке, и Ярцев получил практически минимальное наказание.

Также суд удовлетворил иски потерпевших к белорусу — Ярцев должен выплатить родственникам убитого 2 миллиона рублей в качестве возмещения морального вреда.

Напомним, что нападение на Юрия Шишлова произошло 4 августа 2010 года: киллер выстрелил ему в затылок из газового пистолета с глушителем, переделанного под стрельбу боевыми патронами, и скрылся. На следующий день Шишлов скончался в больнице. Оперативники просмотрели записи камер наблюдения в районе происшествия и нашли автомобиль Volkswagen, который подвозил убийцу. Было установлено, что машина принадлежит 31-летнему гражданину Беларуси Сергею Белову, который в Москве занимался частным извозом. В полиции он рассказал, что в тот день подвозил своего земляка 33-летнего Андрея Ярцева. По словам таксиста, он не знал о намерениях Ярцева. Предполагаемого убийцу объявили в розыск, но задержали лишь 23 марта 2012 года на вокзале в Санкт-Петербурге, когда он купил билет до Минска.

АНТИРЕЙТИНГ

## *Национальная библиотека Беларуси попала в список самых уродливых зданий мира*

Здание Национальной библиотеки Беларуси заняло 14-е место в списке самых уродливых сооружений в мире, составленном аналитиками британского издания The Daily Telegraph. Всего в рейтинг входит 21 объект.

Самым непривлекательным сооружением планеты признана башня Velasca в Милане.

Я ПРЕДЛАГАЮ...

# Вместо Конституционного суда Конституционный трибунал,

## или Как обеспечить конституционную законность в стране

*В предыдущей статье говорилось о том, что у нас имеется Конституционный суд, который не выполняет своего предназначения и “пляшет под дудку” президентской власти, что стране нужен иной суд, который будет надежно охранять Конституцию и права граждан.*

*Какой это суд? Какие у него должны быть полномочия? Как его создать?*



### Основа преобразований

Прежде чем что-то изменить в Беларуси, нужно реформировать саму власть, поскольку она изо всех сил держится за отжившие формы управления. Поэтому, рассуждая о будущей модели государственного устройства Беларуси, в том числе о конституционной юстиции, приходится делать оговорку: это возможно лишь в перспективе. И первым шагом на этом пути должно быть восстановление действия Конституции 1994 года, растоптанной организаторами референдума 1996 года.

Каким будет зигзаг белорусской истории, сказать сложно. Однако отчетливо просматриваются два пути развития: 1) в объятия России и 2) в европейскую семью народов. Причем развязка может произойти скоро. С 1 января 2015 года Беларусь окажется в составе так называемого Евразийского союза, и в результате от нее может остаться только название и глава бывшего белорусского государства. Но это время надо еще прожить, и многое может измениться.

В том случае, если Беларусь сохранит свою национальную идентичность и останется на карте Европы, то ей придется изменить Конституцию. Какую? Конституцию, принятую по сомнительным итогам референдума 1996 года, или Конституцию, принятую Верховным Советом 12-го созыва 15 марта 1994 года?

При выборе демократического (европейского) пути развития за основу должна быть взята Конституция 1994 года, и на ее основе следует проводить назревшие политические реформы. Среди прочих вопросов придется обсуждать роль и место президента в системе органов власти (может быть, и отказаться от этой должности), определять модель парламента, порядок формирования правительства и других государственных органов. Дойдет очередь и до судебной системы, так как в новых условиях суды должны быть независимыми и авторитетными.

### Место Конституционного суда

Многие читатели, наверное, позабыли, что в Конституции 1994 года Конституционный суд занимал особое место в системе органов власти. Он был отнесен не к судебной власти, а к органам государственного контроля и надзора вместе с прокуратурой и Контрольной палатой Республики Беларусь (раздел VI).

Следуя принципу преемственности, мы должны оставить Конституционный суд в этом разделе, соглашаясь с мнением разработчиков Конституции 1994 года о том, что название “Конституционный суд” является условным. Основное назначение этого органа состоит в правовой охране Конституции и проверке на предмет конституционности нормативных актов, издаваемых органами власти.

То есть по своему назначению Конституционный суд является как бы квазисудом, поскольку его главная функция — контроль за соблюдением Конституции в деятельности всех государственных органов, а также защита конституционных прав и свобод граждан.

Если рассуждать таким образом, то можно изменить название Конституционного суда, например, назвав его по польскому образцу “Конституционный трибунал”. Этим названием будет отражен его особый статус среди государственных органов, показано, что он является трибуной для обсуждения спорных конституционных вопросов и что он охраняет Конституцию и законы от всяких нарушений.

### Чем будет заниматься Конституционный трибунал?

Изменение названия органа повлечет за собой и расширение его компетенции. Конституционный трибунал будет осуществлять не только контроль за соответствием Конституции и международным актам всех издаваемых нормативных актов, начиная от законов парламента и кончая решениями органов местного самоуправления, но и давать толкование положений Конституции, рассматривать жалобы граждан на нарушение их конституционных прав и свобод (при соблюдении определенных условий).

На Конституционный трибунал следует возложить обязанность рассмотрения жалоб на решения Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов в период подготовки и проведения выборов и референдумов. Кроме того, Конституционный трибунал должен проверять конституционность формулировок вопросов, выносимых на республиканские референдумы. Он может решать и другие вопросы, отнесенные к его компетенции Конституцией и законами.

Конституционный трибунал станет необходимым и влиятельным органом в белорусском государстве. Он будет работать в напряженном режиме, поскольку станет открытым для всех заинтересованных субъектов, в том числе депутатов парламента, Уполномоченного по правам человека, простых граждан.

Важно подчеркнуть, что граждане получат право непосредственно обращаться в Конституционный трибунал. В качестве условий для такого обращения могут выступать: 1) издание нормативного акта, которым нарушаются конституционные права и свободы гражданина; 2) распространение действия акта на заявителя; 3) обоснование неконституционности положений этого акта (то есть жалоба должна быть составлена адвокатом, юрисконсультом или иным квалифицированным юристом). Жалоба не должна облагаться государственной пошлиной. Гражданин и его представитель вправе принимать участие в рассмотрении жалобы и высказывать свою позицию.

### Как сделать Конституционный трибунал независимым, самостоятельным и авторитетным?

Очень просто: членов Конституционного трибунала должен избирать парламент, как это и было по Конституции 1994 года. Кандидатуры должны тщательно отбираться из числа известных юристов, обладающих глубокими познаниями в области права и имеющих безупречную репутацию. Должности председателя и заместителя председателя Конституционного трибунала должны избираться на общем собрании его членов и утверждаться по особой процедуре в парламенте.

Следует предусмотреть норму, что одно и то же лицо не может избираться в Конституционный трибунал более чем на два срока.

Авторитет Конституционному трибуналу могут принести не только его уважаемые члены, но и принципиальные решения, которые будут выноситься этим органом.

***

Таким образом, у нас есть возможность восстановить конституционную законность в стране через создание Конституционного трибунала. Дело за “малым” — восстановить действие Конституции 1994 года и провести реформу политической системы.

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, член первого состава Конституционного суда.**

***P.S.*** *Отклики и предложения принимаются в письменном виде через редакцию газеты.*

# Глядзі ў корань,

## або Ці варта было крыўдзіцца, шаноўны?

### Адкрыты ліст старшыні ГА «Таварыства беларускай школы» Алесю Лозку

Шаноўны, вельмі мною паважаны спадар Алесь! Даведаўся пра Вашу крыўду з артыкула “Бі сваіх, каб чужыя... не баяліся” (“Народная Воля” за 29 студзеня 2013 г.), і мне здаецца: мо не варта было крыўдаваць на прынцыповае выступленне газеты? Вы, як і шматгадовы старшыня ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны” спадар Алег Трусаў, для мяне, гарачага прыхільніка роднага слова, — блізкія па духу людзі. Думаю, наўрад ці хто сумняваецца, што Вы бароніце нашу мову, многае робіце і яшчэ зробіце дзеля таго, каб яна жыла. Шчыры вам дзякуй і нізкі паклон за гэта!

Зразумела, у якіх цяжкіх, неспрыяльных умовах вы працуеце, прыкладаеце шмат сіл, каб друкаваная прадукцыя набывала беларускае гучанне, і змагаецеся за кожную этыкетку, за абгортку, за шыльду і г.д. І ёсць, дзякуй Богу, вынікі. Тым не менш — прашу мне велікадушна прабачыць, але... мяркую, што колькі б ні было этыкетак, да прыкладу, “Галіны Бланка” і іншых цэтлікаў па-беларуску, кардынальна праблему з мовай гэтым не вырашыць. Абсалютна перакананы: усім нам лепш было б засяроджваць увагу не столькі на дробязях, колькі на самым галоўным: у зваротах да чынавенства, да ўрадавых структур і прэзідэнта бескампрамісна патрабаваць скасавання наступстваў антынароднага, згубнага для лёсу нацыі майскага рэферэндуму 1995 года.

Беларусь — унітарная дзяржава, і аб законнасці так званага двухмоўя, лічу, нават гаворкі быць не павінна. Тым болей што ў Беларусі зараз “дзякуючы” таму сумніўнаму рэферэндуму фактычна, насуперак нават лукашэнкаўскай Канстытуцыі, двухмоўя не існуе, пануе паўсюдна руская мова. А гэта — важкі доказ таго, што Беларусь (яшчэ не дэ-юрэ, але амаль дэ-факта) з’яўляецца расійскай калоніяй. Гэтага нельга не разумець. Патрэбна было б нашым дэмсілам даўно распрацаваць і тактыку, і стратэгію барацьбы з гэтай нечуванай у XXI стагоддзі з’явай, а не выпрошваць напрамілы Бог беларускамоўныя абгорткі для беларускіх цукерак.

Трэба даводзіць да ведама міжнароднай супольнасці пра катастрафічную для роднай мовы палітыку беларускіх улад. Тым болей што ў Мінску ёсць амбасады замежных краін і ўплывовыя міжнародныя грамадскія арганізацыі дэмакратычнага накірунку.

Каланіяльная сістэма, створаная ў свой час у СССР і гістарычна асуджаная, распалася напрыканцы XX стагоддзя. Народы колішніх савецкіх рэспублік, нарэшце, пазбавіліся путаў камуністычнай імперыі. І толькі адна Беларусь засталася там, дзе і была, — амаль цалкам прывязанай да Расіі. І павадок робіцца ўсё больш кароткім — не ў апошнюю чаргу з-за несупыннай русіфікацыі. Усё беларускае — у істотным і дробязях — заганяецца ў кут. У такіх варунках мала дапаможа хаця б шырока разрэкламаваны тэлеканал “Беларусь-3”. Толькі тады наша краіна стане сапраўднай, а не фармальна незалежнай, вольнай і шчаслівай, калі ўваскрэсне Маці беларускага народа — яго мова як першая прыкмета нацыі. Яшчэ раз паўтаруся: пакуль грамадскасць не паставіць пытанне рубам, не запатрабуе адмены вынікаў сумніўнага рэферэндуму 1995 г., нічога ў адносінах да мовы не зменіцца. Ні ў вярхах, ні ў нізах.

А пакуль атрымліваецца: учора мы неяк дамагліся, каб на беларускай мове пісаліся назвы на абгортках цукерак, а сёння мяне пацягнулі ў міліцэйскі пастарунак дзеля высвятлення асобы, бо я “разговаривал на непонятном языке”. Вось і ўвесь сказ. А дзе ж логіка, шаноўныя вы мае? Не крыўдуйце на крытычныя заўвагі, а глядзіце лепш у сутнасць праблемы.

Можна з упэўненасцю сказаць, што пакуль мы будзем толькі кленчыць, каб хоць рознага кшталту цыдулкі друкаваліся па-беларуску (хаця і гэта, не адмаўляю, важна), дык праз якіх-небудзь 15—20 гадоў на ўсіх геаграфічных мапах назва “Беларусь” проста знікне, а замест яе можа з’явіцца новая расійская губерня імя Мураўёва...

**З вялікай павагай да Вас —**

**Мікола КАНАХОВІЧ, ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Адказу няма

***Мне цікава, ці будзе ў Мінску станцыя метро “Плошча Незалежнасці”? Вы пісалі, што з ініцыятывай перайменавання да мінскіх улад звяртаўся адзін з кіраўнікоў Партыі БНФ Рыгор Кастусёў. І які вынік?***

**Сяргей Войцік, г.Мінск.**

Сапраўды, прайшоў ужо месяц з таго часу, як Рыгор Кастусёў звярнуўся ў Камісію па перайменаванні вуліц, але адказу так і няма. Самае цікавае, кажа палітык, што ён ніяк не можа высветліць, хто ўвогуле ўзначальвае названую камісію.

— Да гэтай пары накіроўваў лісты ў гарвыканкам і старшыні камісіі, але замест старшыні камісіі ўвесь час падпісвае адказы намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Ігар Карпенка, — расказаў Рыгор Кастусёў. — Цяжка нават разабрацца, хто ж усё-такі ўзначальвае гэтую камісію. Павінна было прагучаць прозвішча — хто з’яўляецца старшынёй камісіі. Але наш апошні ліст застаўся без адказу.

Нагадаем, што рашэнне перайменаваць станцыю метро “Плошча Леніна” ў станцыю “Плошча Незалежнасці” спецыяльная камісія пры Мінскім гарадскім выканкаме прыняла яшчэ ў 2010 годзе. Аднак пазней сама ж камісія гэтае рашэнне і адмяніла, спаслаўшыся на тое, што нібыта супраць былі “шматлікія грамадзяне”. Рыгор Кастусёў заявіў, што будзе надалей намагацца, каб станцыя “Плошча Леніна” знікла з мінскага метро, як у свой час знікла і сама плошча.



ПРОДОЛЖЕНИЕ РАЗГОВОРА

# Это не хлебная карточка!

*Взяться за перо меня побудили некоторые пассажи из заметки Николая Шкоды под таким же заглавием, как и эта.*



Удивляет: каким образом наши доктора и профессора находят дополнительный доход за счет издания своих трудов и использования изобретений? Вы, Николай, видимо, имеете изобретения, и какой же доход они вам приносят? Уверен, мизерный или вовсе нулевой. Это же можно сказать и относительно гонораров за публикации.

Вы боитесь, что доплата к пенсиям за ученую степень и звание приведет к всплеску коррупции в ВАК. Давайте сравним. Молодой человек, заканчивая военное училище, получает офицерское звание (хлебную карточку), которая позволяет ему при выходе в отставку в 45—50 лет получать пенсию отнюдь не рядового солдата. Профессор же в таком случае получает, как и уборщица. Лишать ученых степеней и званий имеет право только ВАК. Почему же у нас органы, назначающие пенсии, присвоили это право себе?

Кроме того, бравых 50-летних военных пенсионеров спецслужбы устраивают в теплые места (без уменьшения пенсий) в отделы кадров, гражданскую оборону, вытесняя более ветхих 60-летних гражданских пенсионеров.

Задуматься действительно есть над чем, как пишет Николай Шкода. Деятельность ВАК далеко не безупречна. Но проблема гораздо шире. В случае получения доплат к пенсиям очень многие доктора и профессора уйдут с работы. Оголятся институты и университеты. Кто будет преподавать и проводить исследования? Проблема нехватки квалифицированных кадров уже актуальна, а дальше она только обострится. У нас есть действительно неприкасаемая каста 45—50-летних военных пенсионеров, получающих пенсии, о которых 70-летние профессора могут только мечтать. Но ведь эти бойцы Москву не защищали, в плен Паулюса не брали, да и на “линии Сталина” были только на экскурсии.

А за ученые степени и звания требуют ежегодные отчеты: сколько написано статей, монографий, сколько сделано выступлений на конференциях, сколько подготовлено кандидатов наук и т.д. Интересно, пишут ли такие отчеты господа офицеры в оправдание своих званий?

Чиновники, выступая перед микрофоном, любят поучать ученых, что надо заключать хоздоговора, получать гранты. Жаль, что микрофоны не имеют обратной связи. Такие советчики получили бы достаточно нелестных и непечатных отзывов на свои высказывания. Попробуйте в 50—60 лет заключить хоздоговор. На предложение разработать новое высокоэффективное оборудование вы увидите только высоко поднятые брови.

Чиновнику гораздо выгоднее выбить кредит, закупить импортное оборудование и на каком-нибудь этапе получить откат. Вот здесь и стоит густой аромат коррупции, о которой в ВАК и не мечтали.

Видя такое наплевательское отношение к ученым, молодые специалисты (а они у нас далеко не глупые) не спешат бросаться в трудоемкие научные исследования...

**Михаил ГОЛЫНКА.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Ці паклічуць Міканора ў кабінет да пракурора?

**Праваабаронцаў Сяргея Малашанку, Яўгена Парчынскага і іншых суды аштрафавалі за тое, што яны сфатаграфаваліся з партрэтам Алеся Бяляцкага і змясцілі здымкі ў інтэрнэце.**

*Чыноўнік Міканор ва ўрадзе*
*Займаў даволі значны пост.*
*Закіс, як кажуць, на пасадзе*
*І марыў пра кар’ерны рост.*
*Ён нават план сабе акрэсліў:*
*У блізкі час, праз год-другі,*
*Заняць хаця б міністра крэсла.*
*Расклад выходзіў неблагі.*
*І так было б. Але аднойчы*
*Праглядваў прэсу Міканор.*
*Заметка трапіла на вочы*
*Пра вельмі дзіўны прыгавор.*
*Нацдэмам, мовіць так, адпетым*
*Той вырак вынеслі дурны:*
*За здымак, дзе стаяць з партрэтам*
*Свайго паплечніка яны.*
*Змясцілі фота ў інтэрнэце.*
*Крамольнае было наўме —*
*Трымалі, бач, пратэст на мэце,*
*Бо іх паплечнік — у турме.*
*Халодны пот у Міканора,*
*У пекла трапіў ён нібы,*
*Бо могуць жа да пракурора*
*Пазваць самога ў дзень любы.*
*Касіцьмуцца ў пракуратуры,*
*Хоць і не “збаграць” у турму,*
*Бо давялося ў рознай скуры*
*Калісьці пабываць яму.*
*Быў камуністам, дэмакратам,*
*А во цяпер — уладны чын.*
*Калі ўсплыве, крый божа, раптам*
*У Сетцы здымак з тых часін,*
*Гамон-капец яго кар’еры.*
*І нават могуць даць пад зад,*
*Як у “вярхах” не стане веры,*
*Што ён ужо не дэмакрат.*
*І не паверaць жа на слова,*
*Хоць ты аб сценку бíся лбом.*
*Спярша рашыў ён тэрмінова*
*Уласны прашарсціць альбом,*
*Бо можа здуру сын-тупіца*
*З альбома выцягнуць партрэт,*
*Каб родным бацькам пахваліцца,*
*Яго засуне ў інтэрнэт.*
*Гартаў старонку за старонкай,*
*Ад жаху ледзь пад стол не лез,*
*Бо там жа ён не толькі з жонкай —*
*На здымках там нацдэмы спрэс.*
*Калісьці быў ён дэпутатам,*
*Таму Гілевіч побач ёсць.*
*Для ўлады стаў паэт праклятым,*
*Цяпер ён нібы ў горле косць.*
*А вось яшчэ паэт — Вярцінскі.*
*З ім здымак не адзін, а тры!*
*Нягледзячы на ўлады ціскі*
*Не гнецца гэты дзед стары...*
*А гэта хто? Ды то ж Някляеў!*
*Як ён сюды патрапіць мог?!*
*Цяпер на волі, бач, гуляе,*
*Хоць плача зноў па ім астрог.*
*Расперазаліся паэты —*
*Улада ім не па нутру!*
*Пісалі б оды ды санеты*
*Адзінаму правадыру,*
*Дык мелі б гонар і пашану*
*І з ганарараў добры грош.*
*А так, во, сыплюць соль на рану...*
*У смецце здымкі іх! Пад нож!*
*Туды ж няхай ляціць Сярэдзіч.*
*Яму мы рады не дамо,*
*Газетай душы ўсім вярэдзіць,*
*Для ўлады нашай — як бяльмо...*
*Во ў дэпутацкім тым будынку*
*На бляклым здымку —*
*Трэба ж так! —*
*З ім, Міканорам, у абдымку*
*Стаяць Навумчык і Пазьняк.*
*Яны з тутэйшага “балота”*
*Даўно ўжо збеглі за кардон.*
*У інтэрнэт патрапіць фота,*
*Дык будзе сапраўды гамон.*
*Статкевіч? Даў, здаецца, маху,*
*Калі здымаўся разам з ім.*
*Пакласці галаву на плаху,*
*Напэўна, прыйдзецца зусім...*
*А што за непатрэбства гэта?*
*З усімі здымак групавы!*
*З-за калектыўнага партрэта*
*Не мецьмеш праўда галавы...*
*Няшчадна выдаліў з альбома*
*Крамолу тую Міканор*
*І здымкі ўсе спаліў, вядома,*
*Як не было іх з даўніх пор.*
*“Цяпер ужо, — рашыў ён, — болей*
*Ніхто не зробіць мне намёк,*
*Не папракне ніхто ніколі...”*
*І тут кальнула думка ў клёк:*
*“А колісь жа і ўсе газеты*
*(Прынамсі, 20 год назад)*
*Змяшчалі іхнія партрэты,*
*Бо то ж фігура — дэпутат!..*
*Выпісвалі бібліятэкі*
*Калісьці процьму тых газет,*
*Таму для ўласнае бяспекі*
*Трэ й там навесці марафет.*
*Аднак жа для “газетнай бітвы”*
*Спатрэбіцца мне цэлы век,*
*Каб пакрамсаць лязом ад брытвы*
*Падшыўкі ўсіх бібліятэк...”*
*Хоць думка трохі падкасіла,*
*Ён не ў адчаі. “Пакрысе*
*Крамсацьму, покуль будуць сілы,*
*І, можа, ўсё-ткі пранясе...”*
*Яшчэ ж ва ўласным кабінеце*
*Павесіў здымак у кутку.*
*Сам правадыр на тым партрэце*
*Яго трымае пад руку.*
*Не страшна болей Міканору,*
*Ён не хвалюецца амаль.*
*Цяпер кар’ера пойдзе ўгору,*
*І, можа, выдадуць медаль...*

ИЗ ГЛУБИНЫ ДУШИ

# Давайте жить дружно...

Многоуважаемая “Народная Воля”!

Не могу молчать! Не могу, когда в нашей стране нет-нет да и встретишь таких, кто не может до сих пор смириться с независимостью суверенной Республики Беларусь и не стесняется этого. Меня глубоко задела статья С.Калинкиной “Нянавісць”. “Герой” этой статьи потребовал от соседа по даче, белоруса, разговаривать с ним на русском языке, потому что на этой земле, мол, нет никаких белорусов и белорусского языка, а тех, кто на нем разговаривает, надо ни много ни мало... стрелять! К сожалению, случаи национальной неприязни в нашей стране, пусть и редкие, пока никак не наказываются. Разве можно закрывать глаза на подобные болезненные факты, даже если они и не такое уж частое явление?

То и дело нам талдычат: дескать, языковых проблем у нас нет, все тут хорошо, и лучше не надо. Но это “лучше” к белорусам, увы, трудно отнести? Об этом говорит реальное состояние образовательной системы в стране.

Помню, вскоре после раскола советской империи один офицер, служивший в Борисове, просто-таки кричал по телевизору: “Это наша *русская* земля, и Борисов — исконно *наш* город!” И это был образованный человек. А ведь к тому времени Беларусь уже была независимой страной. И такие высказывания никто публично официально не осудил.

Не хочу бередить душу дальше, нарываться на обвинения в “разжигании национальной розни”. Я знаю множество русских, очень достойных, дружественных нам, белорусам, людей, настоящих граждан нашей страны. Но как ранят проявления иного рода! “Не повезло! — решила поделиться со мной своей бедой одна пожилая дама. — Вот прислали еще после института сюда, а я их, кто разговаривает по-белорусски, терпеть не могу”.

Но если не нравится, кто же насильно держит? Ведь у нас, коренных жителей этой земли, нет иной Родины, она нам дорогая, незаменимая. Мы всех встречаем с открытым сердцем, готовностью прийти на помощь, поделиться всем, чем можем. На том стояли и стоим, а слышать от некоторых, хотя они и единицы, обидные слова в свой адрес не очень-то радостно. Всегда, везде, у всех народов дружба вырастала и вырастает из взаимопонимания и взаимоуважения к национальным традициям, языку, культуре, истории каждого из них. И вся наша жизнь подтверждает это.

Понимаю, что затрагиваю очень тонкую сферу человеческих чувств, но тем более прошу всех, кто живет на этой земле, ощущать нашу теплоту и отвечать тем же.

**Нина ТАРАСОВА, жительница Гродно.**

ТОЧКИ НАД «і»

# Не так страшны изменения, как их малюют

***Моя дочь в этом году заканчивает школу, поэтому я с особой тревогой читаю многочисленные сообщения о планах по изменению правил приема в вузы, которые обсуждаются в Беларуси. И что-то совсем запуталась, что меняется уже в нынешнем году, а что из озвученного — планы на будущее. Не могла бы “Народная Воля” как-то внятно расставить точки над “і” в этом вопросе?***

**Ольга Николаевна Супрун, Минск.**

В нынешнем году будут действовать прежние правила приема в вузы и ссузы, утвержденные указом от 7 февраля 2006 года №80. Об этом сообщил министр образования Сергей Маскевич.

Так, с 5 марта началась регистрация на профессионально-психологическое собеседование для абитуриентов, изъявивших желание поступать на специальности, предъявляющие особые требования к специалистам. Само собеседование будет проходить с 5 по 30 апреля в 18 вузах по пяти группам специальностей: государственное управление и государственное управление и право; правоведение, экономическое право и государственное управление и право; международные отношения и международное право; журналистика и международная журналистика; таможенное дело.

Следующий этап вступительной кампании: со 2 мая по 1 июня включительно пройдет регистрация на централизованное тестирование. График проведения ЦТ по учебным предметам также утвержден. Тестирование пройдет с 14 по 28 июня, резервный день для сдачи одного вступительного испытания, пропущенного абитуриентом по уважительной причине, — 4 июля.

Единственное, что может измениться, так это минимальный балл, который надо набрать абитуриентам на централизованном тестировании. Планируется, что по учебным предметам “русский язык”, “белорусский язык”, “математика”, “физика”, “химия”, “биология” это будет 15 баллов; по учебным предметам “история Беларуси”, “всемирная история новейшего времени”, “обществоведение”, “география”, “иностранный язык” — 20 баллов.

Баллы, полученные абитуриентами, которые не дотянут до этих значений, будут считаться непроходными для приемной комиссии вуза. При этом такие абитуриенты смогут воспользоваться возможностью поступить в ссузы. Однако окончательное решение на этот счет пока не принято.

З ЛІСТА

# Мову адняло?

На тэлеканале АНТ нам паказваюць перадачу “Я люблю Беларусь”. Добра, вельмі добра!

Людзі сумуюць па нашай родненькай, прыгожай, мілагучнай мове. Шчыра дзякую за добрую задумку! Але адкажыце вы мне, чаму беларусы-вядучыя размаўляюць на расійскай мове? Яна для іх больш мілая? Тады што ж гэта за “ЛЮБОЎ” такая і навошта гэтая перадача?

**Алена Паўлаўна ДРАЗДОВІЧ.**

*Мінск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 САКАВІКА 2013 г.

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## Более миллиона сирийцев бежали в соседние страны

Число беженцев из Сирии в текущем году может удвоиться или даже утроиться, если конфликт в стране не будет завершен, предупреждает Верховный комиссар ООН по делам беженцев **Антониу Гутерреш.**

По данным ООН, за два года, прошедших с начала конфликта, в результате противостояния погибло около 70 тысяч человек. Более миллиона сирийцев бежали в соседние страны и получили там статус беженцев.

## Переизбрана на пост лидера

Лауреат Нобелевской премии мира **Сан Су Чжи** переизбрана на пост лидера основной оппозиционной силы Мьянмы — партии "Национальная лига за демократию". Такое решение было принято на первом в истории общенациональном съезде активистов партии, который завершился в воскресенье. Длительное время партия фактически находилась под запретом.

## Горбачев обвиняет правительство Путина в наступлении на права граждан

Об этом пишет **The Times.** В опубликованном интервью Би-Би-Си 82-летний Горбачев заявил, что при Путине страна "буксует", что президент окружен *"ворами и коррупционерами"* и *"боится"* российского народа, сообщает автор статьи Бен Хойл.

Горбачев отметил, что он *"поражен"* числом спорных законов, принятых за последний год. *"Если провести нить между этими законами — это все наступление на права граждан. Это меня просто поражает. Не надо бояться своих людей, черт возьми!"* — заявил он.

*"Люди хотят от него действий, которые бы восстанавливали диалог, ожидают открытого прямого разговора",* — добавил он. Иначе *"страна будет дрейфовать, как льдина в Ледовитом океане".*

Он сказал, что поддерживал Путина на его первом сроке, но с тех пор отношения *"расстроились". "У меня за это время было много выступлений критического плана... Он срывается. Однажды он сказал: "Надо укоротить язык Горбачеву".*

## Очередная реформа правительства КНР

Проект ее представлен в воскресенье на рассмотрение Всекитайского собрания народных представителей (ВСНП). Планируется сократить число министерств, что повысит эффективность работы правительства, заявил журналистам в понедельник в Пекине замглавы канцелярии Комитета по реформированию центральных органов власти **Ван Фэн.**

Сессия ВСНП завершится 17 марта. На ней утвердят новых руководителей, наметят план развития КНР на этот год.

## Проигравший президентские выборы объявил голодовку

Раффи Ованнисян, проигравший президентские выборы в Армении, объявил голодовку. Ованнисян требует, чтобы переизбранный президент Серж Саргсян отменил результаты выборов и взял самоотвод.

Выступая перед тремя тысячами своих сторонников на площади Свободы в центре Еревана, Ованнисян заявил, что Саргсян должен до 9 апреля — дня своей новой инаугурации — "принять победу народа" и отказаться от президентства. "Если 9 апреля Саргсян принесет клятву на Библии, если католикос благословит его, то это они сделают на моем трупе", — пообещал оппозиционер. Капитуляции соперника Ованнисян намерен дожидаться прямо на площади.

Президентские выборы состоялись в Армении 18 февраля. Согласно официальным результатам, Ованнисян набрал около 37 процентов голосов, а Саргсян — примерно 59 процентов, что обеспечило действующему главе государства победу в первом туре. Хотя международные наблюдатели дали выборам положительную оценку, проигравший кандидат заявил о фальсификации результатов, отказался признать поражение и провозгласил себя "избранным президентом".

НА СВЯЗИ — ВЕНЕСУЭЛА

# Мадуро или Каприлес?

Кандидат в президенты от оппозиции **Миранда Энрике Каприлес** официально подтвердил свое участие в выборах 14 апреля.

Обращаясь к кандидату от партии власти страны **Николасу Мадуро**, Каприлес сказал, что не оставит тому *"свободной дороги".*

Каприлес уже участвовал в выборах в 2012 году, однако тогда победу одержал действующий президент Уго Чавес.

По данным соцопросов, Мадуро является фаворитом предстоящих выборов.

Жесткой критике подверг Каприлес власти и за то, что сейчас *"они используют смерть президента Уго Чавеса в предвыборных целях"*, а до этого *"систематически лгали о состоянии здоровья президента". "Кто знает, когда на самом деле умер Чавес? Власти стремились выиграть время, чтобы Николас (Мадуро) мог подготовиться к выборам,* — сказал Каприлес. — *Мне многие говорят, что принимать участие в выборах на таких условиях равносильно тому, чтобы добровольно идти на бойню, но я буду бороться за каждый голос избирателя и не облегчу тебе задачу, Николас".*

Мадуро — представительный 50-летний мужчина огромного роста с роскошными усами. Пламенный революционер, социалист, антиимпериалист. До сих пор всегда скромно держался в тени покойного команданте, перед смертью назначившего его своим преемником в обход конституции страны (на переходный период страну вообще-то должен был возглавить председатель Национальной ассамблеи **Диосдадо Кабельо).** Однако в последние дни Мадуро произнес много по-настоящему ярких речей как у гроба Чавеса, так и в общении с народом, политиками и журналистами.



Бывший водитель автобуса без какого-либо образования, в политике Мадуро крутится более 30 лет. Женат на Силии Флорес — генеральном прокуроре страны, всегда боготворившей Чавеса. Внутри правящей партии и армии, по слухам, многие до сих пор были недовольны Николасом Мадуро, считая его марионеткой не столько Уго Чавеса, сколько режима Кастро на Кубе.



Каприлес — богатый образованный 40-летний интеллектуал, спортсмен, католик, самый молодой в истории Венесуэлы депутат Национального собрания, губернатор богатого центрального штата Миранда, где на выборах он обошел того самого **Диосдадо Кабельо.** На последних выборах в октябре проиграл Чавесу с небольшой разницей: 45 процентов голосов против 55. Для венесуэльской оппозиции это небывалый рекорд.

Холостяк. Сам себя называет *"социал-демократом XXI века".* Главной бедой страны считает постоянный рост преступности. Сторонник налаживания нормальных отношений с западным миром и привлечения иностранных инвестиций, а также отказа от агрессивной риторики во внутренней и внешней политике, экономической поддержки Кубы и разнообразных "революций" по всей планете.

По последним опросам, за Каприлеса готовы отдать голоса чуть больше 36 процентов избирателей. За Мадуро — чуть менее 50 процентов.

**Сергей ИВАНОВ.**

ПАЛІТЫКА

# Праўда і міфы пра беларуска-венесуэльскае супрацоўніцтва

Зараз у Венесуэле паўстала вельмі складаная ўнутрыпалітычная сітуацыя. Найбольш неспрыяльным для афіцыйнага Мінску выглядае варыянт з прыходам да ўлады венесуэльскай апазіцыі, кандыдат ад якой на апошніх прэзідэнцкіх выбарах набраў амаль 45 працэнтаў галасоў. Ён, дарэчы, нашчадак беларускіх яўрэяў-эмігрантаў.

Вядома, што міжнародныя адносіны любой аўтарытарнай дзяржавы практычна цалкам вызначаюцца поглядамі яе першай асобы, і пры новым лідары яны могуць змяніцца кардынальна. Менавіта таму смерць прэзідэнта Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла Уга Чавеса выклікала ў свеце дыскусію аб тым, якой будзе знешняя палітыка гэтай краіны.

У яшчэ большай ступені гэта выклікае цікавасць да беларуска-венесуэльскіх дачыненняў, бо яны грунтаваліся яшчэ і на ўзаемнай асабістай прыхільнасці лідараў. Пры гэтым, аднак, застаецца адкрытым пытанне, якіх канкрэтна пераменаў варта чакаць.

### Пераважна на нафтавай глебе

Як развіваліся стасункі Беларусі з Венесуэлай дагэтуль? Дыпламатычныя адносіны паміж імі былі ўсталяваны 4 лютага 1996 года, але цягам амаль дзесяцігоддзя ніякага адлюстравання іх у медыях яны не мелі.

Што цікава, ініцыятыву ў наладжванні двухбаковага палітычнага дыялогу праявіў венесуэльскі бок. У 2006 годзе адбыўся першы візіт у нашу краіну Уга Чавеса. Ён хутка знайшоў агульную мову з Аляксандрам Лукашэнкам і пасля наведваў Беларусь яшчэ чатыры гады запар. У сваю чаргу Лукашэнка пабываў у Венесуэле тройчы — у 2007, 2010 і 2012 гадах.

Адначасова паскоранымі тэмпамі пачаў нарошчвацца ўзаемны гандлёвы абарот. Калі ў 2000 годзе ён складаў усяго толькі 1,9 мільёна долараў, а ў 2006-м — каля 20 мільёнаў, дык у 2010-м быў дасягнуты рэкордны ўзровень — 1,3 мільярда, што дазволіла Венесуэле заняць сёмае месца сярод знешнеэканамічных партнёраў Беларусі. Дрэнна толькі, што пры гэтым адмоўнае сальда склала для нас больш за мільярд долараў.

Такое "дасягненне" было вынікам, з аднаго боку, нафтавага канфлікту паміж Мінскам і Масквой, з другога — наступствам згаданай асабістай прыхільнасці. Расія паспрабавала выкруціць Беларусі рукі, увёўшы мыта на нафту, і тады беларускі кіраўнік звярнуўся да сябра па дапамогу. З мая і да канца 2010 года венесуэльская нафта паступала на Мазырскі НПЗ.

Дарэчы, не адпавядае рэчаіснасці меркаванне, што гэты праект з самага пачатку быў пазбаўлены эканамічнага сэнсу з-за вялікай адлегласці крыніцы. Сапраўды, нафта з Лацінскай Амерыкі была вельмі дарагая, але, згодна з разлікамі расійскіх экспертаў, нават у такіх абставінах кошт тоны яе быў на 200 долараў меншы за кошт расійскай з улікам экспартнай пошліны. Гэта быў адзін з істотных фактараў, што прымусілі Маскву адмовіцца ад сваіх намераў, пасля чаго сэнс набыцця далёкай нафты насамрэч знік, і праект быў спынены.

Адпаведна рэзка скараціўся ўзаемны гандлёвы абарот — прыкладна да 450 мільёнаў долараў летась. Сёння Беларусь пастаўляе ў Венесуэлу трактары, аўтамабілі, дарожную тэхніку, сухое малако. Там створаны шэраг сумесных прадпрыемстваў і зборачных вытворчасцяў, ідзе здабыча нафты і газу, вядзецца будаўніцтва жылля і аб'ектаў па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі.

Далёка не апошняе месца займае таксама супрацоўніцтва ў ваенна-тэхнічнай сферы. У прыватнасці, Беларусь была каардынатарам стварэння адзінай сістэмы супрацьпаветранай абароны Венесуэлы, значную частку кампанентаў якой распрацоўваюць і вырабляюць беларускія прадпрыемствы. Наўрад ці выпадкова амбасадарам у Каракас быў накіраваны былы камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі і супрацьпаветранай абаронай Беларусі.

У свой час Віктар Шэйман заяўляў, што ажыццяўленне планаў у гэтай сферы дасць эканамічны эфект памерам больш за мільярд долараў і забяспечыць дзясяткі прадпрыемстваў беларускага ваенна-прамысловага комплексу заказамі на доўгія гады.

Нарэшце, ёсць інфармацыя аб продажы Венесуэле ваеннай тэхнікі праз прыватную беларускую кампанію "Белтэхэкспарт". Крыміналу тут няма, бо пакупнік не падпадае пад якія-небудзь забаронныя санкцыі, але зразумела, што такое супрацоўніцтва асабліва не асвятляецца.

### Усё залежыць ад пераемніка

Як бачна, нягледзячы на маштабнае скарачэнне ўзаемадзеяння, у бакоў яшчэ застаецца нямала агульных інтарэсаў. Але праблема ў тым, што яны грунтуюцца не столькі на ўзаемнай эканамічнай зацікаўленасці, колькі на ўзаемных сімпатыях і палітычных дамоўленасцях двух кіраўнікоў. Так што цяпер усё залежыць ад таго, якія прыярытэты будзе мець новы венесуэльскі лідар.

Ягонае становішча абавязкова будзе ўскладняць тая акалічнасць, што эканамічны і сацыяльны стан спраў у краіне вельмі цяжкі: у Венесуэле самая вялікая інфляцыя ў Лацінскай Амерыцы, зніжаецца здабыча нафты, зачыняюцца шматлікія прадпрыемствы, ідзе наступленне на буйны і сярэдні бізнес. На аднаго пісьменнага прыпадае 5 малапісьменных ці наогул непісьменных. Пры Чавесе Каракас выйшаў на трэцяе месца сярод усіх гарадоў свету паводле ўзроўню бытавой злачыннасці і забойстваў.

У сувязі з гэтым новаму кіраўніку непазбежна прыйдзецца стабілізаваць рэжым, шукаць шляхі выхаду з эканамічнага крызісу, распрацоўваць шляхі павышэння бяспекі краіны.

Апрача таго, цяпер у Венесуэле паўстала вельмі складаная ўнутрыпалітычная сітуацыя. Найменш спрыяльным для афіцыйнага Мінска выглядае варыянт з прыходам да ўлады венесуэльскай апазіцыі, кандыдат ад якой — Энрыке Капрылес — на апошніх прэзідэнцкіх выбарах набраў амаль 44% галасоў. Па-першае, апазіцыя мае выразную радыкальную праграму пераарыентацыі на ЗША. Па-другое, Капрылес — катэгарычны праціўнік адносін, створаных сёння паміж Беларуссю і Венесуэлай, і ўжо абяцаў падвергнуць іх самай сур'ёзнай рэвізіі. І як валявым рашэннем у краіну быў прыведзены шэраг беларускіх фірм, так аналагічным рашэннем усё гэта можа быць зачынена.

Праўда, пакуль лічыцца, што больш шанцаў на перамогу на датэрміновых выбарах мае цяперашні віцэ-прэзідэнт Нікалас Мадура. У той жа час ён не зусім ужо бясспрэчная кандыдатура сярод прыхільнікаў Чавеса. Расклад можа змяніцца з-за супярэчнасцяў у кіруючай партыі, дзе шмат хто выступае за спікера Нацыянальнай асамблеі — былога вайскоўца Д'ёсдада Кабэльё, моцным бокам якога з'яўляецца таксама падтрымка ваеннай эліты.

Канкурэнцыю ім можа скласці яшчэ адзін паплечнік Чавеса — Франсіска Ар'яс Кардэнас, які поруч з ім кіраваў мяцяжом у лютым 1992 года, але пазней кінуў пальчатку свайму "баявому таварышу".

Да таго ж існуюць вялікія сумненні наконт таго, што хто б з іх ні стаў на чале дзяржавы, ён будзе праводзіць тую ж знешнюю палітыку. Вядома, скажам, што Кабэльё не мае намеру працягваць аказваць Кубе такую ж велізарную дапамогу, як Чавес.

Карацей кажучы, з амаль поўнай упэўненасцю можна зрабіць выснову, што надалей беларуска-венесуэльскія стасункі ў тым жа рэчышчы развівацца не будуць. Адзінае, што застаецца невядомым, гэта з якой хуткасцю пойдзе працэс іх перагляду.

**Міхась ІЛЬІНСКІ,**
**эксперт аналітычнага партала "Новая Еўропа".**

## *Почему лидеры беднейших стран самые богатые?*

Обнаружены десятки счетов **Ким Чен Ына** на сотни миллионов долларов в китайских банках.

Разведслужбы США и Южной Кореи выявили несколько десятков счетов в китайских банках, которые якобы принадлежат Высшему руководителю, лидеру партии, армии и народа КНДР Ким Чен Ыну. Западные спецслужбы заявляют о вкладах на сотни миллионов долларов на этих счетах.

Вашингтон и Сеул передали собранные данные властям Китая, предложив закрыть эти счета в соответствии с недавней резолюцией Совета безопасности ООН.

Однако в Пекине отнеслись к полученным сведениям без энтузиазма, Китай всегда оставался особым партнером как ныне правящего в КНДР Блистательного товарища Ким Чен Ына, так и его папы Ким Чен Ира, носившего титул "Любимый Руководитель, который полностью олицетворяет прекрасный облик, которым должен обладать лидер", и дедушки — просто Великого руководителя и Генералиссимуса Ким Ир Сена.

СЛЫШАЛИ?

# Сланцевый газ: *европейские страсти*

*Европа богата сланцевым газом. Опыт США показывает, что с помощью современных технологий его можно эффективно использовать. Но подняли голову защитники окружающей среды. И закипели страсти...*

### В Литве и Германии ищут решение

Внутри кабинетов министров Германии и Литвы существуют разногласия по вопросам разработки месторождений сланцевого газа. На днях литовское правительство заблокировало выдачу разрешения на разработку сланцевого газа в Жемайтии. Как сообщает Gazeta Wyborcza, решение Вильнюса мотивировано желанием премьер-министра, социал-демократа Альгирдаса Буткявичюса подождать разрешения местных властей перед началом работ.

Премьер-министр Альгирдас Буткявичюс по представлению министра охраны окружающей среды Валентинаса Мазурониса, члена консервативной партии "Порядок и справедливость", счел необходимым провести более глубокое исследование вопроса парламентской комиссией по экономике и охране окружающей среды, которое, согласно оценкам, продлится чуть больше месяца.

Необходимость обсуждения этой деликатной темы в парламенте диктуется и протестами, организованными в Вильнюсе жителями Жемайтии, не желающими начала разработок сланцевого газа.

Эти хоть и не очень многочисленные народные протесты заставили министра охраны окружающей среды Валентинаса Мазурониса потребовать от премьер-министра углубленного обсуждения вопроса в парламенте даже ценой возникновения внутренних разногласий в левоцентристской коалиции большинства. Несколько дней назад министр экономики Ярослав Неверович, представитель партии "Избирательная акция поляков Литвы", публично высказался в поддержку предоставления прав на эксплуатацию месторождения сланцевого газа в Литве американскому энергетическому колоссу Chevron и польской компании Lotos.

Как сообщает агентство Bloomberg, министр Неверович счел позитивным факт участия компании Chevron в разработке литовских месторождений, так как это будет способствовать созданию новых рабочих мест и внедрению новейших технологий в целях дальнейшего экономического развития страны.

Из-за двух различных позиций внутри коалиции премьер-министр Буткявичюс оказался в роли посредника между различными силами коалиции: Социал-демократической партией, Партией труда, партией "Справедливость и порядок" и партией "Избирательная акция поляков Литвы". С одной стороны, премьер-министр счел необходимым прислушаться к протестам, направленным против разработок сланцевого газа, а с другой стороны, по его мнению, за счет эксплуатации собственного месторождения сланцевого газа можно уменьшить зависимость Литвы от поставок голубого золота из России, которые обеспечивают 89% нужд Литвы в газе. Согласно оценкам, запасы сланцевого газа в Литве достигают 50 миллиардов кубометров.

Германия, которая, согласно оценкам, обладает 2260 миллиардами кубометров сланцевого газа, тоже ищет пути для окончательного одобрения закона о разработках до начала ближайших федеральных выборов, пытаясь преодолеть разногласия между министром окружающей среды Петером Альтмайером и министром экономики Филиппом Ресслером.

Альтмайер, представитель партии большинства "Христианско-демократический союз", к которой принадлежит и немецкий канцлер Ангела Меркель, высказался в поддержку закона, позволяющего начать разработку месторождений сланцевого газа.

Реслер, представитель либеральной Свободной демократической партии, состоящей в коалиции с Христианско-демократическим союзом, заявил о необходимости оценить влияние технологии гидравлического разрыва пласта на окружающую среду. Ситуация по этому вопросу осложняется еще и противоречиями в парламенте. Бундестаг, большинство в котором обеспечивается союзом двух партий правоцентристской коалиции (Христианско-демократический союз и Свободная демократическая партия) склонен начать разработки месторождений сланцевого газа, а Бундесрат, состоящий из представителей федеральных земель и контролируемый социал-демократами и зелеными, высказался против них.

### ЕС заинтересован в разработках месторождений сланцевого газа

Начало разработок собственных месторождений сланцевого газа позволило Соединенным Штатам Америки стать одним из основных производителей газа на мировом уровне и укрепить свою позицию на азиатских рынках, особенно — в Южной Корее, Индии, Сингапуре и Индонезии.

В случае Европы использование сланцевого газа, разработка месторождений которого была одобрена Польшей, Данией, Великобританией, Австрией, Румынией, Испанией, Португалией, Эстонией, Словакией, Словенией, Венгрией, Нидерландами, Швецией и Латвией, позволит уменьшить зависимость этих стран от поставок газа из России и Алжира. На 80% европейские страны зависят от поставок голубого золота из этих стран.

Согласно результатам различных исследований, наиболее богатые месторождения сланцевого газа в Европейском Союзе находятся в Польше, Румынии, Великобритании, Германии и Литве.

Очень богаты сланцевым газом также Франция и Болгария, которые, однако, вместе с Бельгией и Чехией заморозили проекты по его разработке.

**Подготовил к печати**
**Сергей ИВАНОВ.**

АСОБЫ

# Сімвал надзеі для ўсяго свету

Так вядомую ўсяму свету апазіцыянерку з М'янмы назваў генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун.

Дзейнасць **Сан Су Чжы** нагадвае дэмакратычным грамадствам, што дэмакратыю неабходна цаніць, а недэмакратычным дае прыклад таго, як за яе трэба змагацца. За дэмакратыю ў сваёй краіне Сан Су Чжы змагаецца больш за 15 год, і гэтая барацьба яшчэ не скончылася. Пра яе расказваецца на сайце "Польскага радыё для замежжа".



*Сан Су Чжы з прэзідэнтам Францыі Аландам.*

Сан Су Чжы нарадзілася ў 1945 годзе ў горадзе Янгон. Яе бацька быў вядомым грамадскім, палітычным і вайсковым дзеячам, які спрычыніўся да атрымання М'янмай незалежнасці. І нават узначаліў пераходны ўрад, але ў 1947 годзе ён разам з іншымі сябрамі часовага ўрада быў забіты. Дзень яго смерці ў М'янме адзначаецца як дзень незалежнасці краіны. Помнікі Аун Сану былі пастаўлены ў шмат якіх гарадах краіны. Менавіта таму вайсковыя ўлады М'янмы не асмеліліся ліквідаваць яго апазіцыйна настроеную дачку.

У М'янме на працягу 20 год існаваў сацыялістычны аднапартыйны рэжым, падобны да кітайскага і савецкага.

Да 1988 года Сан Су Чжы вучылася і працавала за мяжой, у ЗША і Англіі. Атрымала навуковую ступень доктара ва ўніверсітэце ў Лондане. Сан Су Чжы вярнулася ў Бірму ў 1988 годзе, калі ў краіне пачыналіся змены. 8 жніўня 1988 па краіне прайшлі дэманстрацыі з патрабаваннямі дэмакратычных перамен.

Сан Су Чжы выступіла на мітынгу і адразу сталася нацыянальным лідарам і нацыянальным сімвалам. Аднак дэманстрацыя была падаўлена вайскоўцамі, дзясяткі людзей былі забіты, а ў краіне ўсталявалася вайсковая хунта.

Палітычная філасофія, на якой базіравалася ў сваёй дзейнасці Сан Су Чжы, абапіралася на будызм, вучэнні Гандзі і Марціна Лютэра Кінга. У 1988 годзе яна сфарміравала адзіную апазіцыйную платформу "Нацыянальная дэмакратычная ліга". Папулярнасць Сан Су Чжы стала рэальнай пагрозай для вайсковай хунты. І ў 1989 годзе яна была арыштавана і заключана пад хатні арышт.

Пад хатнім арыштам яна была 15 год з кароткімі перапынкамі, яе арыштоўвалі 10 разоў. Дзеці і муж жылі ў Англіі. Улады М'янмы забаранялі ўезд яе сям'і ў М'янму, нават калі хворы на рак муж Сан Су Чжы хацеў прыехаць і развітацца з жонкай. Улады спецыяльна не давалі яму візу, жадаючы, каб апазіцыянерка выехала за мяжу сама. Яна адмаўлялася, бо была ўпэўнена ў тым, што ўлады яе больш ніколі не пусцяць назад.

Па сутнасці, яна ахвяравала сваім прыватным жыццём дзеля краіны. У 1990 годзе ёй далі Нобелеўскую прэмію міру, якую яна таксама не змагла атрымаць. Прэмію ўзялі яе дзеці.

Сан Су Чжы садзілі пад хатні арышт пад любой нагодай. Так, у 2007 годзе яе абвінавацілі ў тым, што яна не заплаціла падаткаў ад Нобелеўскай прэміі. У 2009 годзе тэрмін яе зняволення працягнулі яшчэ на некалькі год за тое, што малады амерыканец Джон Етаў пераплыў возера, на якім стаяў дом Сан Су Чжы, каб папярэдзіць пра магчымы замах. Быццам такім чынам Сан Су Чжы парушыла рэжым хатняга арышту.

Разам з гэтым улады праводзілі рэпрэсіі супраць насельніцтва, будыйскіх манахаў, студэнтаў. Краіна знаходзілася ў міжнароднай ізаляцыі. Але ізаляцыя і прэсінг з боку міжнароднай супольнасці прывялі да таго, што ў 2010 годзе Сан Су Чжы была вызвалена. Упершыню за 10 гадоў яна змагла сустрэцца са сваімі дзецьмі.

На працягу двух апошніх год Сан Су Чжы змагла наведаць заходнія краіны, дзе яе сустракалі як сімвал барацьбы за свабоду і за сваю краіну.

**Павел УСАЎ.**

ТЫМ ЧАСАМ

# *Хто такі Эва Маралес?*

Балівія можа замяніць Венесуэлу ў якасці стратэгічнага партнёра Беларусі на Лацінаамерыканскім кантыненце. Па крайняй меры, такія планы ёсць. Аляксандр Лукашэнка, прыбыўшы на развітанне з Уга Чавесам, правёў перамовы з прэзідэнтам Балівіі Эва Маралесам. Вынік перамоў: "Будзем сябраваць так, нібы Уга жывы..."

Хуан Эва Маралес Айма — першы прадстаўнік карэннага насельніцтва Амерыкі (індзейскага племені аймара), які кіруе Балівіяй, за больш як 500 год з часу іспанскай каланізацыі. Прытрымліваецца левых палітычных поглядаў, з'яўляецца лідарам партыі "Рух да сацыялізму" і ўзначальвае рух балівійскіх какалера (вытворцаў кокі). Выступае за легалізацыю какаіну.

На прэзідэнцкіх выбарах у 2002 годзе Маралес заняў другое месца, што стала нечаканасцю для традыцыйных балівійскіх партый, а ў спалучэнні з яго індзейскім паходжаннем гэта зрабіла Маралеса знакамітым па ўсёй Лацінскай Амерыцы. На прэзідэнцкіх выбарах Маралес перамог у 2005 годзе пасля шэрагу агульнанацыянальных балівійскіх карупцыйных скандалаў. У выбарах удзельнічала 98,7% выбаршчыкаў, Маралес атрымаў 53,9% галасоў і больш як на 15% апярэдзіў свайго саперніка, былога прэзідэнта, кансерватара Хорхе Кіроху.

Праз месяц пасля перамогі Маралес наведаў індзейскую духоўную цырымонію на месцы археалагічнага помніка дакалумбавай эпохі і ў сучасным рэлігійным цэнтры Тыўанаку, дзе ён быў каранаваны як вярхоўны лідар аймара, мясцовых індзейцаў.

22 студзеня 2006 адбылася інаўгурацыя Маралеса, на якой прысутнічалі прэзідэнты Аргенціны, Венесуэлы і Чылі.

Маралес лічыць найгоршым ворагам чалавецтва амерыканскі капіталізм. Амерыканскую зону свабоднага гандлю (FTAA) называе "пагадненнем для легалізацыі каланізацыі Амерык". На міжнароднай арэне выказвае сімпатыі да левых палітыкаў: Фідэля Кастра і Уга Чавеса. Пра беларускага кіраўніка Аляксандра Лукашэнку да нядаўняга часу ён, напэўна, проста не ведаў.

Вядзе дыскусію з урадам ЗША па праблеме кокі і пры гэтым сцвярджае, што няўхільна прытрымліваецца антынаркатычнай пазіцыі, абараняючы права карэнных народаў Балівіі вырошчваць гэтую традыцыйную культуру. Дарэчы. для многіх бедных балівійцаў жаванне лістоў кокі з'яўляецца натуральным сродкам вытрымаць доўгі працоўны дзень (да пятнаццаці і нават васямнаццаці гадзін у дзень).

Не жанаты. Пратакольныя функцыі першай лэдзі выконвае яго сястра.

Дарэчы, Маралес моцна адрозніваецца ад традыцыйных лацінаамерыканскіх палітыкаў сваім спакойным стаўленнем да ўмоўнасцяў. У студзені 2006 года ён скараціў сваю зарплату на 57 працэнтаў — да 1875 долараў у месяц, што для гэтай беднай краіны таксама астранамічная лічба. Да выбараў ён дзяліў кватэру з іншымі функцыянерамі сваёй партыі. Паняцце "дрэс-код" для яго таксама не існуе, ён носіць традыцыйнае адзенне індзейцаў.

Вялікі прыхільнік футбола.

УВАГА!

## Як нам яго называць?

*Абвешчаны конкурс на імя талісмана чэмпіянату свету па хакеі-2014*



Дырэкцыя па правядзенні чэмпіянату свету па хакеі з шайбай 2014 года, Федэрацыя хакея Рэспублікі Беларусь сумесна з афіцыйным тураператарам чэмпіянату свету па хакеі "ЦэнтрКурорт" абвясцілі нацыянальны конкурс на імя і гісторыю-біяграфію афіцыйнага талісмана чэмпіянату свету па хакеі з шайбай, які ў наступным годзе пройдзе ў Мінску.

Конкурс будзе праходзіць у два этапы. Удзельнікі да 1 красавіка павінны даслаць матэрыялы па пошце на адрас: 220020, Мінск, пр. Пераможцаў, 20/3, УП "Дырэкцыя па правядзенні чэмпіянату свету па хакеі з шайбай 2014" або на электронны адрас talisman@ck.by, з паметкай "Талісман". Матэрыялы, якія паступяць пасля ўказанага тэрміну, разглядацца не будуць.

На другім этапе журы вызначыць 10 прэтэндэнтаў на перамогу. Гэтыя работы будуць размешчаны ў інтэрнэце для галасавання. Па выніках гэтага галасавання і будзе вызначаны пераможца.

Тром лаўрэатам конкурсу будуць уручаны дыпломы і каштоўныя прызы — квіткі на матчы чэмпіянату свету па хакеі з шайбай.

СКАНДАЛ

## *Аляксандр РУДСКІХ:* «Астапчук могуць дыскваліфікаваць пажыццёва»

*Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі (ІААФ) паўторна праверыла пробы ўдзельнікаў чэмпіянату свету 2005 года, які праходзіў у сталіцы Фінляндыі Хельсінкі. Сярод "штрафнікоў" аказаліся чатыры беларускія спартсмены.*



Узоры, узятыя на чэмпіянаце свету-2005, былі перададзены на доўгае захоўванне ў акрэдытаваную WADA антыдопінгавую лабараторыю ў Лазане (Швейцарыя). Для паўторнага аналізу былі выкарыстаны самыя сучасныя аналітычныя метады.

З шырокага дыяпазону проб, узятых у лёгкаатлетаў розных краін у многіх дысцыплінах, шэсць аказаліся станоўчымі. Іх уладальнікі: чэмпіёны свету ў кіданні молата **Іван Ціхан** (Беларусь) і Вольга Кузянкова (Расія), чэмпіёнка свету ў штурханні ядра **Надзея Астапчук** (Беларусь), сярэбраны прызёр у кіданні молата **Вадзім Дзевятоўскі** (Беларусь), сярэбраная медалістка ў скачках у даўжыню Таццяна Котава (Расія), а таксама **Андрэй Міхневіч** (Беларусь), які заняў 5-е месца ў штурханні ядра.

У адпаведнасці з правіламі ІААФ у дачыненні да гэтых атлетаў ініцыяваны дысцыплінарныя працэдуры. Да іх завяршэння ІААФ не будзе рабіць ніякіх каментарыяў, паведамляе афіцыйны сайт Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

Нагадаем, што Астапчук была пазбаўлена залатога медаля Гульняў-2012.

— У гэтай сітуацыі, калі спартсменаў абвінавачваюць ва ўжыванні допінгу па фактах сямігадовай даўніны, вельмі шмат пытанняў, — распавядае "Народнай Волі" былы галоўны трэнер і экс-кіраўнік Федэрацыі лёгкай атлетыкі Беларусі, заслужаны трэнер СССР **Аляксандр РУДСКІХ**. — Бо было б справядліва, калі б праверылі ўсе пробы таго часу. А то возьмуць чатыры тысячы проб, а праз сем гадоў правяраюць сто. Як правіла, спартсменаў з Расіі, Беларусі, Украіны. Я думаю, што такім чынам Міжнародная федэрацыя і МАК сякуць сук, на якім сядзяць. Праходзілі ж і Ціхан з Дзевятоўскім, і Міхневіч з Астапчук допінгавы кантроль у 2005 годзе. Тады ўсё было нармальна. І калі зараз выкарыстоўваюць сучасныя метады, то правярайце абсалютна ўсіх. Але прычапіліся менавіта да Ціхана і Дзевятоўскага, якія выйгралі допінгавы працэс у МАК пасля Алімпіяды ў Пекіне. Вось зараз і наязджаюць. А разам з імі прыхапілі і Міхневіча з Астапчук для агульнай карціны.

**— А чаму, на ваш погляд, такое стаўленне да спартсменаў з краін былога Саюза?**

— Як чаму? Савецкі Саюз — гэта ж была імперыя зла. Да таго ж на МАК вельмі вялікі ўплыў аказваюць заходнія краіны. Яны хочуць адвесці ад сябе допінгавую пагрозу, якая, дарэчы, нарадзілася не ў Беларусі і Украіне, а менавіта ў ЗША. Зрэшты, барацьба з допінгам — гэта на самай справе вялікая праблема, і нам трэба прымаць сур'ёзнае заканадаўства. А так нікога не прагантралюеш. Калі б хоць аднаго трэнера пажыццёва дыскваліфікавалі, то вынік быў бы. У ЗША, калі даведаліся, што галоўны трэнер лёгкаатлеткі Мэрыян Джонс валодаў сітуацыяй аб ужыванні ёю допінгу, яго дыскваліфікавалі на ўсё жыццё. А ў нас — увесь бруд выліваецца на спартсмена. Але што той жа спартсмен разумее ў юнацкім узросце? Яго ж нехта вучыць, падштурхоўвае да ўжывання забароненых прэпаратаў.

**— Што зараз пагражае беларускім спартсменам?**

— Ціхан і Дзевятоўскі, па сутнасці, ужо закончылі кар'еру спартсменаў, Міхневіч таксама не юны атлет. Я ім раіў напісаць тлумачэнні па гэтай сітуацыі, але што можна знайсці праз сем гадоў? Можа, яны тады лекі нейкія і прымалі, якія раней лічыліся дазволенымі? Ніякіх жа дзённікаў не вялі... А я падтрымліваю расіянку Святлану Крывілёву, якая апынулася ў такой жа сітуацыі. Яна сказала: "Я медаль нікому аддаваць не збіраюся. Чаму я павінна аддаваць яго таму, хто ў той час нават не праходзіў допінгавы кантроль?" І на самай справе — чаму?

**— А што будзе з Надзеяй Астапчук? Яна трапіла ў вельмі складанае становішча...**

— У МАК і Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі адзін падыход да ўсіх. Мэрыян Джонс была больш вядомая, чым Астапчук, але не пашкадавалі — дыскваліфікавалі пажыццёва. Вось і Надзею, магчыма, чакае тое самае. Станоўчая проба 2005 года дадаецца да станоўчай пробы 2012 года — і пішыце пісьмы, да варажбіткі не хадзі. Крыўдна толькі, што ўсе спробы трэнера Астапчук Аляксандра Яфімава ўзяць віну на сябе (маўляў, ён падсыпаў допінг у ежу спартсменкі) аказаліся нікому не патрэбнымі. Як мне падаецца, чалавек прыняў на сябе ўдар, каб змякчыць прысуд для Надзеі, а ІААФ і МАК дасталі з рукава яшчэ адзін козыр.

**— Кажуць: дыму без агню не бывае. А можа, гэтыя спартсмены і на самай справе сем гадоў таму ўжывалі допінг?**

— Магло быць і так, гэты варыянт таксама не адкідваецца. Я думаю, увесь свет працуе на мяжы фолу ў допінгавым пытанні. Але гэтая мяжа вызначаецца на канкрэтны момант, а не сем гадоў таму...

**Алесь СІВЫ.**

НУ І НУ!

## Чэмпіёны па аферах?

*Восьмы этап Кубка свету па біятлоне завяршыўся ў Сочы, аднак гэта мерапрыемства прыцягнула ўвагу яшчэ і тым, што горад рыхтуецца да зімовай Алімпіяды. Пакуль страшна нават уявіць, што гэта будзе...*

Біятлоністка зборнай Беларусі Надзея Скардзіна распавяла на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы "ВКонтакте" аб тым, што ў Сочы здзівіла яе асабіста.

"Сочы — горад духоўнасці і дабрыні!" Такім слоганам сустрэў нас горад! За два дні з трох магазінаў нас хацелі падмануць у трох. На прэтэнзіі адказвалі словамі: "А што вы думалі, у казку трапілі?" Кошты на таварах не сапраўдныя, а касавы апарат раптоўна перастае працаваць, і, як потым аказваецца, сума прабітага стала ў 10 разоў большая, чым купленага! Мы хоць ведаем, як разабрацца, а вось бедныя замежнікі, напэўна, і не заўважаць, што іх падманулі".

ЧУЛІ?

## Рустам Валіулін вярнуўся ў біятлон

*На этапе Кубка IBU ў Востраве адбылося вяртанне беларускага біятланіста Рустама Валіуліна. Праўда, не самае ўдалае.*

У спрынтарскай гонцы ён заняў 33-е месца, у гонцы пераследу апусціўся на 45-ю пазіцыю, прамазаўшы пяць разоў.

36-гадовы Рустам Валіулін — прызёр чэмпіянату свету 2003 года ў Ханты-Мансійску, неаднаразовы чэмпіён свету па летнім біятлоне. У 2011 годзе ён абвясціў, што пакідае спорт. Апошнія яго выступленні былі зусім няўдалымі — 69-е месца ў спрынце і 57-е месца ў індывідуальнай гонцы на чэмпіянаце свету. Зараз, пасля вяртання, Валіулін выступіў крыху лепей, але відавочна, што спартсмен не ў лепшай форме. Навошта вярнуўся? Няўжо зусім няма каму выступаць за беларускую каманду?

ЭВРИКА!

# Код бессмертия,

## *или О чем читал лекции Олег Квитко в Лондоне?*



Недавно появилась сенсационная информация. Объединенная команда ученых из университета города Осаки обнаружила, что на ход старения человека прямо влияет один из сложных белков, постоянно находящихся в крови, и нашли способ повлиять на него, почти полностью приостанавливая процесс старения клеток в организме. Иными словами, ученые из Японии сильно приблизились к открытию секрета вечной молодости.

Однако, как выяснилось в процессе исследований, у данного открытия есть и другая сторона медали. Замедляя процесс старения, человек лишается иммунной системы. А это грозит тяжкими последствиями, преждевременной смертью. Японские ученые пока не могут повлиять на белок так, чтобы и иммунная система продолжала работать, и процесс старения останавливался. "Исследования в этом направлении ведутся. И как знать, может, совсем скоро люди всей планеты смогут избавиться от страха неминуемого старения". На такой мажорной ноте заканчивалась информация.

Короче говоря, мелькнула искра надежды и погасла. И не в первый раз. Ученые многих стран ведут работы, чтобы победить старость и найти код бессмертия. И пока терпят поражения.

Почему? Есть в Библии строки: "И сказал Господь: не вечно Духу моему быть пренебрегаемым человеками; потому что они плоть; пусть будут дни их сто двадцать лет". О чем эта фраза из книги великой мудрости? И не в ней ли ответ на все потуги ученых отыскать "ген старения" и "код омоложения". Всевышний четко предупредил: пренебрегаете Духом моим, не чтите имя мое — вот и награда вам соответствующая, не наполню я вас долготой лет своих. Так это, не так, хотите — верьте, хотите — нет. Но ученые разводят руками, пытаясь отыскать путь к роднику молодости, пытаясь продлить и поддержать жизнедеятельность клеток. К сожалению, путь этот тупиковый. Как известно, клетки человека обновляются в среднем один раз за сто дней или 300 раз за 80 лет! И получается, что человек умирает от старости, имея молодые клетки. Не парадокс ли это?

Некоторые ученые говорят: мы с рождения носим в себе семена смерти. Кто-то не хочет, чтобы люди долго "гостевали" на Земле. Поэтому иммунная система наша начинает стареть в 12—15 лет, мышечная в 22 года. Наш организм сам себя отравляет день ото дня, и это приводит к ослабленному и согласованному ослаблению жизненных функций. Парадокс, но этот процесс организован самим организмом. И отменить команду "на поражение" пока не удалось никому.

Есть российский ученый Алексей Оловников. Он первым доказал, что существует теламерный механизм старения клеток, своего рода "шагреневая кожа" человека. Потом это подтвердили американцы, получив за экспериментальное подтверждение его идеи Нобелевскую премию. Но о премии разговор особый. А суть открытия в том, что на концах хромосом находятся особые участки ДНК, которые при каждом делении сокращаются. Сокращаются — и наступает блокировка деления клеток. Вот вам и смерть.

Хотя опять же, как говорят ученые, на Земле долгожители есть. Но это не люди, а иные создания. Например, живущие в воде и нестареющие виды: акулы, осетры, камбала, кальмар, крокодилы. Они никогда не умирают от старческих недугов, а погибают в зубах хищника, более молодого и сильного. В Англии выловили камбалу весом 13 килограммов, возраст этой рыбины 850 лет. Гренландский кит, например, живет 200 лет. С годами он становится все сильнее и сильнее, размножается с возрастом лучше. А вот почему умирает — неизвестно. Не стареет и жемчужница. Это моллюск, который обитает в северных реках. Вершина жизни его, как и у кита, 200 лет. Он растет все время, чем старше, тем становится плодовитее. Его не пугает голод, отсутствие кислорода. И погибает не от старения, а от своего... роста. После 200 лет раковина становится очень тяжелой, чтобы мышца ноги моллюска могла удержать жемчужницу в нужном положении. Раковина падает, ее заносит илом, песком, и моллюск умирает с голоду. Или взять голого землекопа, живет такое существо размером с мышку в катакомбах Центральной Африки. Он не болеет раком, раковые клетки в нем просто не растут. И вообще болезни обходят его стороной, потому что у землекопа мощнейший иммунитет. У него отсутствует программа старения. И в отличие от обычной мыши, он живет в три раза дольше. А возьмите раковые опухоли. Да они бессмертны!

У людей, к сожалению, заложена программа старения. И, как говорилось, ее не побороть. Да, можно вмешаться в гены человека. Но если сделать это грубо, пытаясь продлить жизнь клеткам, то не исключено появление бессмертных образований, о которых упоминалось выше. Почему? А потому что те гены, которые участвуют в старении, они участвуют и в образовании раковых опухолей. Эти процессы неразрывно связаны. Кстати, манипулируя и со стволовыми клетками, необходимо соблюдать осторожность. Потому что в данном направлении не все изучено. У них только в течение короткого периода работают гены, способные регенерировать органы, например восстанавливать часть печени. Потом включается механизм превращения клетки в раковую. И финал все тот же.

Выходит, остановить старение нельзя? Нельзя, — говорят одни ученые. Другие считают, что его можно замедлить и продлить жизнь до 120 лет, это реально. **А кандидат биологических наук, доцент, ведущий сотрудник Института генетики и цитологии Национальной академии наук Беларуси ОЛЕГ КВИТКО считает, что у каждого из нас в нашем геноме заложена программа бессмертия, только надо найти ключи к ней.**



— Дело в том, что современная биология старения, которой я занимаюсь, генетика старения ни в коей мере не утверждает, что процесс старения неизбежный, — говорит Олег Викторович. — Да, многие виды стареют. И умирают от увядания. Но есть виды, которые не стареют, хотя они тоже не бессмертны. К этим видам относятся в первую очередь различные водные организмы. Их довольно много. Особенность этих организмов в том, что у них нет какого-то определенного момента окончания роста. Скажем, у человека жестко детерминирован рост и физическое развитие. Выработан ресурс — происходит остановка генетической программы развития и роста. А у организмов нестареющих снят такой запрет. Они все время растут. И можно предполагать, поэтому они и не стареют.

**— Олег Викторович, есть ученые, которые утверждают, что старение человека начинается сразу после его рождения.**

— Я так не считаю. Когда человек развивается и растет, то процесс старения блокирован, он ослаблен и замедлен. А настоящий процесс старения начинается тогда, когда организм вырастает. Если бы не было какого-то механизма омоложения клеток, связанного с развитием, то человек просто бы не доживал до взрослого состояния, до 20 лет. Он умирал бы, как мышь, век которой всего три года. В наш геном, в наши гены вмонтирован особый механизм замедления старения клеток.

Существует ряд теорий интересных, отчасти правильных. Но я говорю: нет специальных генов старения, нет и специальных генов защиты от старения. Гены появления жизни — это гены развития и роста. То есть те же самые гены, которые руководят развитием, ростом и изменением клеток и организмов, они одновременно замедляют и старение клеток.

Олег Квитко сегодня, можно сказать, на пике славы. На основе научных трудов ученого его аспирантка написала научный трактат, который на международном конкурсе в Москве занял первое место, его приглашают выступить с лекциями в Лондон и Берлин, в ряд других западных стран. Он автор популярной развитийной теории омоложения и конкретных предложений к ней.

Если коротко о предложениях, то суть такова. Как сказал Олег Викторович, у человека жестко детерминирован рост и физическое развитие, а дальше остановка генетической программы по данным позициям и увядание. А нет ли другого фактора, другого пути, чтобы продлить полноценную жизнь? Есть, считает ученый. Почему-то человечеством напрочь забыта духовная дорога, почему-то наш мозг загружен донельзя мало, наши извилины давно выпрямились и мы не пытаемся их напрягать. Вспомните, когда ходили в театр, крестились в церкви, ездили на свидание с красотой и песней, наполнялись благодатной информацией? Даже уйдя на пенсию, люди не пытаются исправить положение. Хотя жизнь не закончилась, жизнь продолжается, но в духовном плане. Кто сегодня в долгожителях? Человек работающий, мыслящий, который в постоянных раздумьях, в творческих делах и заботах, у которого годы действительно богатство, наполненное знаниями и мудростью. Главное, считает Олег Квитко, чтобы люди постоянно мыслили, занимались медитациями, читали молитвы. Физический сосуд наполнен, время наполнять духовный, у которого нет краев. Хотя данные работы надо выполнять смолоду.

— Я не открою большого секрета, если скажу, что нервная система находится под непосредственным влиянием нашей духовной сферы, наших представлений религиозного и этического характера, — отмечает ученый. — Может, существует особый нервный электрический код, код омоложения. Я говорю об особых мозговых волнах. И тут феномен веры является очень важным компонентом еще не исследованных тайн нашей психики. Сейчас это изучается: медитации, психотренинг, молитвы. Был проведен ряд исследований, и было показано, что та же молитва очень часто плодотворно влияет на состояние гормональной сферы, уменьшается количество гормонов стресса в крови, возникает мощный антистрессовый эффект, понижается, нормализуется давление. И, наконец, несколько увеличивается продолжительность жизни. Пусть не сильно. Но это факт. И я хочу сказать еще вот о чем. Во время любой молитвы, во время любого сеанса медитации происходит концентрация, при этом достигается иное состояние сознания, которое отсутствует в обыденной жизни и тем самым наша духовная сфера обогащается. Но обогащается она временно. Затем мы попадаем в обыденное состояние. Поэтому я предложил новый способ медитации, который основан не на концентрационном принципе, а на принципе расширения фокуса нашего сознания. Мой девиз ныне: думай обо всем сразу! От мелочей до высоких материй! И я чувствую, он срабатывает. Совершая такую медитацию, тренируя, подключая неиспользованные ресурсы мозга, вы стимулируете механизмы омоложения, тренируете информационный процессинг. Природой задумано, чтобы человек развивался, а не довольствовался тем, что достигнуто. Тема продления жизни сама по себе фундаментальная и большой практической важности.

**— Олег Викторович, а не упрекали ли вас люди верующие, что вы посягаете на прерогативу божью: на бессмертие. Как может быть человек бессмертен? Только Бог бессмертен.**

— Я отвечаю им: и человек может быть бессмертен, это дело богоугодное. А Бог? Бог — вечен! Кстати, я утверждаю: в геноме человека записана программа бессмертия. Но она может работать, а может и не работать. Природа как бы говорит: а почему ты остановился в развитии? Мне нужно, чтобы ты развивался дальше. И особые претензии у нее к человеку. Чтобы человек жил дольше, познавал природу, познавал высокие духовные вещи, которые он не успевает познать за свою короткую жизнь.

**— Хорошо, Олег Викторович, если ученым и медикам удастся убрать все причины, которые ведут к смерти, все болезни, то все равно человек будет умирать. Может, удастся 10—15 лет приплюсовать.**

— Поэтому настоящую перспективу я вижу только в двух вещах. Первое — это духовное совершенствование. И второй момент — это глубинная наука на уровне клеток, генов, молекул, которой мы в институте и занимаемся.

**— Олег Викторович, скажем, ученые воплотили свои идеи в жизнь. С одной стороны, это хорошо, а со второй — огромное перенаселение Земли. Как здесь с этической стороной?**

— Все будет нормально. Долголетие пойдет только на пользу. Наука может совершить громаднейший прорыв. Но при этом не надо забывать философию крупнейшего русского ученого Николая Федорова. Он был глубоко религиозным человеком. И считал, что с помощью науки можно разработать методы обретения бессмертия всеми живущими. Не отдельными личностями, а всеми живущими. Он был противник индивидуального бессмертия. Более того, под влиянием своего этического учения он говорил, что обретение бессмертности — это предварительная задача. Он ставил фантастическую задачу: воскрешение всех умерших. Он говорил, если мы становимся бессмертными, но не воскрешаем души наших предков, то мы эгоисты. Поэтому, я считаю, человечество должно быть как один организм, в организме нет жесточайшей борьбы, нездоровой конкуренции, капитализма. Там коммунизм. Там все согласовано, там нет границ, там нет партий. Там есть только внутренняя полиция — иммунитет да нервная система. И все! По такому принципу должна жить и развиваться и человеческая цивилизация.

**Евгений СОЛОВЬЕВ.**

НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

## Якой будуць вясна і лета?

Не ведаю, як вы, шаноўныя чытачы, а я на пачатку сакавіка не заўважыў доўгіх ледзяшоў, што спаўзаюць з дахаў дамоў. А па народных прыкметах гэта азначае, што вясна не будзе працяглай. Пакуль зіма не здаецца, але вось-вось павее цяплом, і тады вясна навярстае ўпушчанае.

Старыя людзі сцвярджаюць, што калі сакавік, першы месяц вясны, халодны, то год будзе хлебародны. Дай Бог!

Калі вакол жылля будзеце бачыць шмат сініц, то чакаць цяпла ад сёлетняй вясны не давядзецца.

Калі пачнуць біць маланкі, але без грому, то, кажуць, трэба рыхтавацца да сухога лета.

А хочаце мець прагноз наконт будучага лета? Назірайце за мурашамі — калі снег спачатку растае з паўднёвага боку, то лета будзе халодным і кароткім, калі з паўночнага — цёплым і доўгім.

І яшчэ. Паназірайце падчас паводкі за рэкамі. Калі лёд на іх берагах будзе абсыхаць, то год можа стаць цяжкім.

У Беларусі гарачае лета бывае далёка не кожны год. Калі вясной будзе многа лятучага павуціння — разлічвайце менавіта на гарачае лета. Прадказальнікам халоднага лета лічыцца такая прыкмета, як гнездаванне птушак на сонечным баку.

Цёплы красавік і халодны май — гэта значыць, што будзе добры ўраджай.

**Андрэй САКОЛЬЧЫК.**





**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 11.03.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27400 экз. Заказ №1028.**